Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 4 (4855) 29 студзеня 2016 г.



# Не хапае прасторы!

## Маладыя — пра жыццё ў сучасным мастацтве

**Яны ведаюць, як стварыць сваю сістэму сімвалаў, падштурхнуць людзей да развагі, зладзіць шоу-правакацыю ці, наадварот, накіраваць свядомасць у медытатыўны экстаз. А можа, змяніць жыццё? Маладыя мастакі Беларусі твораць у самых розных тэхніках: акварэль гэта альбо літаграфія, скульптура ці фотакалаж, — аддаюць перавагу традыцыям ці адкрываюць новыя стылі... У апошнія гады акадэмічнае, традыцыйнае майстэрства ўступае ў выгадны сімбіёз з эксперыментамі, новымі тэхналогіямі, мовай метафар, абстракцыяй і сінкрэтызмам. У нас сапраўды шмат моцных мастакоў — усіх узростаў. Чаму ж да гэтага часу існуе праблема міграцыі талентаў? Чаго не хапае ім «тут і цяпер»? Якое яно, сучаснае нацыянальнае мастацтва? Беларускія творцы, уладальнікі дзяржаўных узнагарод, удзельнікі ўжо некалькіх выставак, разважаюць пра тое, як рэалізаваць сябе на радзіме.**

### ВЕРНІСАЖ — ГЭТА ДОБРА. АЛЕ...

Рэспубліканская мастацкая выстаўка лаўрэатаў, стыпендыятаў і дыпламантаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі працуе ў Нацыянальным гістарычным музеі з 22 студзеня да 7 лютага. Вернісаж стаў пляцоўкай для студэнтаў і маладых педагогаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў — дызайнераў і жывапісцаў, скульптараў і графікаў. Сярод іх — Вольга Мельнік-Малахава, Алеся Скарабагатая, Васіль Пяшкун, Раман Сустаў, Ганна Конанава, Кацярына Семячко, Алесь Багданаў, Вікторыя Шыдлоўская, Арцём Мядзведзеў, Аляксандр Доманаў... Шырокая панарама тых, хто ўжо заявіў пра сябе, і пачаткоўцаў. Адны імкнуцца падкрэсліць нацыянальную культуру, распавядаючы, напрыклад, пра прыгажосць беларускай прыроды на мове геаметрычных форм і рытмікі абстракцый, іншыя пераасэнсоўваюць падзеі Вялікай Айчыннай вайны, трэція паглыбляюцца ў казку і экзістэнцыяльны свет. Ва ўсіх абсалютна выпадках работы выглядаюць вельмі прафесійна.

Арганізацыя падобных вернісажаў на вядучых выставачных пляцоўках краіны з'яўляецца адной з форм дзяржаўнай падтрымкі. Бо самае, мабыць, важнае — быць пачутымі і заўважанымі, знайсці сваю аўдыторыю і, у больш глабальным сэнсе, паказаць людзям, што беларускае мастацтва эвалюцыянуе, а не сыходзіць у падполле. Добра, калі б такія магчымасці даваліся не раз на год, а куды часцей, у тым ліку ў выглядзе конкурсаў, фестываляў, стажыровак і майстар-класаў.

Чытайце на стар. 12



Фёдар Шурмялёў «Апошняе дрэва».

## Пункцірам

✔ Паводле Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў Расіі Ігара Петрышэнкі, Год культуры, аб'яўлены ў нашай краіне, прадугледжвае мерапрыемствы і для Масквы. Першым стаў канцэрт Беларускага дзяржаўнага ансамбля «Песняры», прысвечаны 75-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Мулявіна. Плануецца, што ў чэрвені на пляцоўцы Дзелавога і культурнага комплексу пасольства пройдуць Дні культуры Беларусі «Беларускія сезоны». У 2016 годзе пачнецца таксама падрыхтоўка да мерапрыемстваў з нагоды святкавання юбілеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў народнага артыста Расіі Вячаслава Дабрыніна з 70-гадовым юбілеем. Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што на беларускай зямлі Вячаслава Дабрыніна ведаюць і цэняць як таленавітага эстраднага артыста і кампазітара. «За гады творчай дзейнасці вы стварылі нямала яркіх шлягераў, якія атрымалі шырокую папулярнасць у слухачоў і прафесіяналаў, сталі дастойным прыкладам музычнай творчасці для маладых талентаў», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Выканаўца *IVAN* (Аляксандр Іваноў) прадставіць Беларусь на міжнародным песенным конкурсе «Еўрабачанне-2016» у Швецыі. Пераможцу нацыянальнага адбору ўпершыню вызначылі выключна па выніках тэлефоннага і смс-галасавання гледачоў. У якасці прыза яму ўручылі шкляное сэрца, якое зроблена на шклозаводзе «Нёман».

✔ Прэзентацыя кнігі «Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны» адбылася ўчора ў канферэнц-зале музея. Выданне падрыхтавана калектывам установы сумесна з Выдавецкім домам «Звязда». Тэкст прадстаўлены на трох мовах — беларускай, рускай, англійскай. Яго дапаўняюць фатаграфіі экспазіцый і экспанатаў, а таксама прадметаў з фондаў музея, якія немагчыма ўбачыць падчас экскурсій. Выпуск ажыццёўлены па замове і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

✔ Першы канал Беларускага радыё praводзіць «Юбілейны тыдзень» Івана Шамякіна. У фондах радыё захавалася шмат спектакляў і пастановак вядомых твораў пісьменніка. На пачатку тыдня слухачам быў прапанаваны радыёспектакль «Сэрца на далоні», учора і сёння — радыёкампазіцыя спектакля Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача «Залаты медаль» па аднайменнай п'есе. У выходныя прагучыць спектакль «Трывожнае шчасце».

✔ Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь заключыў Мемарандум аб супрацоўніцтве з Калінінградскім гісторыка-мастацкім музеем. Дакумент, які стаў вынікам візіту ў Калінінград кіраўніка ўстановы Алега Рыжкова, мае на мэце сумесныя захады па захаванні, вывучэнні і папулярызацыі культурнай спадчыны, развіцці навуковых і культурных сувязяў.

✔ Наведвальнікаў Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь 27 студзеня чакаў прыемны сюрпрыз. Толькі ў сераду ўваход на асноўную экспазіцыю стаў вольным для ўсіх жадаючых. У гэты ж дзень арганізатары прадугледзелі спецыяльныя зніжкі на ўваходныя квіткі для жадаючых азнаёміцца з выставай шэдэўраў сусветнай графікі Францыска Гоя і Пабла Пікаса.

# Бізнес-культура ў Беларусі

## 50 мільярдаў рублёў прыняла краіна ад мецэнатаў за мінулы год

**На сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага ўзнагародзілі лаўрэатаў прэміі «Мецэнат культуры Беларусі 2015 года». Дыпломы былі ўручаныя прадстаўнікам беларускіх дзяржаўных і камерцыйных арганізацый, якія ўнеслі важкі ўклад у развіццё і станаўленне айчыннай культуры.**

Прэмія «Мецэнат культуры» заснавана ў 2012 годзе Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь. Арганізацыйны камітэт, у які ўваходзяць прадстаўнікі ўсіх культурных рэспубліканскіх арганізацый, вылучае мецэнатаў па намінацыях, не размяркоўваючы месцаў.

У прывітальным слове міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў адзначыў:

— Можна лічыць, што ў нас склалася пэўная традыцыя, якая падкрэслівае культуру і з'яўляецца яе адметнай рысай, — у святочных абставінах віншаваць і дзякаваць нашым мецэнатам. Толькі за мінулы год пяцьдзясят мільярдаў беларускіх рублёў прыняла наша краіна з боку мецэнатаў. За гэтыя сродкі былі праведзены такія мерапрыемствы, як фестываль «Славянскі базар у Віцебску», кінафестываль «Лістапад», адкрылася галерэя Валерыя Шкарубы ў Барысаве, быў праведзены шэраг мерапрыемстваў у падтрымку таленавітай моладзі... Я вельмі рады, што з кожным годам у нас развіваецца не толькі айчыннае мастацтва, але і адбываецца станаўленне бізнес-культуры, за кошт якой усё больш падтрымкі атрымліваюць нацыянальныя каштоўнасці. І справа не ў тым, вялікія альбо малыя грошы былі ўнесены ў той ці іншы праект, галоўнае — гэта стаўленне да роднай спадчыны, якая, дзякуючы мецэнатам, ахоўваецца і развіваецца.

У прыватнасці, персанальнымі ўзнагародамі былі адзначаныя намеснік старшыні праўлення ААТ «Беларусбанк» Уладзімір Занько, намеснік старшыні праўлення ААТ «Банк БелВЭБ» Алег Прохарчык, саветнік старшыні праўлення ААТ «Белгазпрамбанк» Уладзімір Сажын, пасол Беларусі ў Францыі, пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ЮНЕСКА Павел Латушка, пасол Беларусі ў Расіі Ігар Петрышэнка, старшыня канцэрна «Белнафтахім» Ігар Ляшэнка, старшыня ЗАТ «Другі нацыянальны тэлеканал» Рыгор Кісель, старшыня Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь Генадзь Давыдзька, пасол Беларусі ў Літве і Фінляндыі (2006 — 2013) Уладзімір Дражын, старшыня праўлення ААТ «Банк развіцця Рэспублікі Беларусь» Сяргей Румас, генеральны дырэктар ААТ «Гродна Азот» Канстанцін Маянаў, генеральны дырэктар ААТ «Мінскія тэлевізійныя інфармацыйныя сеткі» Міхаіл Мілаванаў і іншыя.

Намеснік старшыні праўлення ААТ «Беларусбанк» Уладзімір Занько сказаў:

— Нашаму адкрытаму акцыянернаму таварыству сёння пашанцавала. Другі год запар мы з'яўляемся лаўрэатамі прэміі «Мецэнат культуры Беларусі». У нейкай ступені гэты факт дапамагае нам развіваць спадчыну, разумець, што карысна для нашай культуры і якія крокі на гэтым шляху можна рабіць ужо сёння. У мінулым годзе намі быў зроблены ўпор на тэатральнае мастацтва, якое з цягам часу становіцца больш моцным. Мы аказалі дзейсную дапамогу Вялікаму тэатру оперы і балета, дапамаглі беларускаму харэаграфічнаму ансамблю «Харошкі» і іншым установам культуры. Я ўпэўнены, што ў будучыні наша арганізацыя будзе працягваць падтрымку традыцыйнай культуры на карысць беларускага грамадства.

Намеснік генеральнага дырэктара ААТ «Газпрам трансгаз Беларусі» Юрый Ляшэнка:

— Нам не ўсё роўна, як існуе культура нашай краіны, не ўсё роўна, як далей будзе захоўвацца спадчына продкаў. Дапамога з'яўляецца нашым абавязкам і адказнасцю. Вельмі прыемна, што дзяржава дае такую адзнаку нашай неабыякавасці, бо ў выніку сумеснае плённае супрацоўніцтва і падтрымка культуры ў такі няпросты час характарызуецца як усеагульнае ўзаемнае задавальненне.

А намеснік дырэктара замежнага таварыства з абмежаванай адказнасцю «Джапан Табака Інтэрнэшнл ЭсЭндДзі» Генадзь Бруснікаў падзякаваў дзяржаве за плённую сумесную працу:

— Не першы год наша кампанія займаецца актыўнай дзейнасцю ў Беларусі па падтрымцы культуры, мастацтва і развіцця беларуска-японскіх сувязей. У апошнія гады падтрымка бізнесам культуры атрымлівае годныя вынікі. Гэта добры ўзор дзяржаўна-прыватнага партнёрства для іншых краін, якое, безумоўна, мае перспектывы не толькі ў культуры, але і ў іншых грамадскіх напрамках.

Цырымонія суправаджалася музычнымі перформансамі, падрыхтаванымі артыстамі Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага.




*Фота БелТА.*

*Міністр культуры Барыс Святлоў уручае грамату Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму Паслу Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы і Фінляндскай Рэспубліцы (2006 — 2013) Уладзіміру Дражыну.*

**Вікторыя АСКЕРА**

## У літаратурным асяродку

# Арыенцір — чытач

Літаратурна-музычная гасцёўня пад назвай «Я голас ваш» прайшла ў Аршанскай цэнтральнай бібліятэцы імя А. С. Пушкіна і была прысвечана 80-годдзю з дня нараджэння славутага пісьменніка-земляка Янкі Сіпакова.

Дарэчы, у кніжніцы ёсць чытальная зала «Бібліятэка Янкі Сіпакова», дзе налічваецца звыш пяці тысяч экземпляраў кніг з уласнага кнігазбору пісьменніка, перададзеных ім сюды самім і сям'ёй.

Пра цёплыя стасункі з Іванам Данілавічам распавяла яго пляменніца, завуч Зубрэвіцкай сярэдняй школы Тамара Шачанок. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі Канстанцін Нілаў падкрэсліў важнасць твораў Янкі Сіпакова ў выхаванні маладога пакалення. Цёпла сустрэлі прысутныя гасцей з Мінска — пісьменнікаў Зіновія Прыгодзіча і Навума Гальпяровіча, якія падзяліліся ўспамінамі пра Івана Данілавіча.

Урыўкі з твораў Янкі Сіпакова прачыталі вучні аршанскай сярэдняй школы № 20. Аздобілі імпрэзу творы ў выкананні ансамбля народных інструментаў СШ № 16 і ансамбля народнай песні і музыкі «Гагарынскія музыкі». Пра гэта рэдакцыя «ЛіМа» даведалася ад чытача Мацвея Чарныша і супрацоўнікаў аршанскай Цэнтральнай бібліятэкі імя А. С. Пушкіна.

Вось ужо другі год пры Фундаментальнай бібліятэцы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта дзейнічае клуб аматараў мастацкага слова «КЛУмБа». Пераважная большасць сяброў творчага аб'яднання — пачынаючыя літаратары з розных факультэтаў БДУ. На іх рахунку — шмат цікавых імпрэз. Клумбаўцы актыўна выступаюць у рэспубліканскім перыядычным друку, а Таццяна Купрыянец і Кацярына Роўда выдалі ў серыі сталічнага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі «Мінскія маладыя галасы» ўласныя паэтычныя зборнікі, паведаміў чытач «ЛіМа» Анатоль Зарэцкі.

У межах першага ў новым годзе пасяджэння «КЛУмБы» адбылася прэзентацыя кнігі Кацярыны Роўда «Водар белага наліву», якую падрыхтавала вядучы бібліятэкар Ірына Шкіронак. З выхадам зборніка аўтарку павіншавалі дырэктар бібліятэкі Уладзімір Кулажанка і намеснік дырэктара Ала Буціна, пісьменнік Анатоль Зэкаў, маладыя сябры па пяры. Уласную песню на верш Кацярыны Роўда пад акампанемент гітары выканала маладая паэтэса Аліна Карпіцкая.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

# Чым здзіўляе замак-кастэль?

## Яго таямніцы раяць раскрываць пры запаленай свечцы

**Амаль 700-гадовы Крэўскі замак, які знаходзіцца ў Смаргонскім раёне, вядомы найперш тым, што вялікі князь літоўскі Ягайла 14 жніўня 1385 года падпісаў тут пагадненне з Каралеўствам Польскім, якое назвалі Крэўскай уніяй. Гэта моцна змяніла ход еўрапейскай гісторыі. Па запрашэнні шляхты літоўскі князь стаў каралём польскім. 70-гадовы Ягайла разам са сваёй чацвёртай жонкай 17-гадовай Соф'яй Гальшанскай стаў пачынальнікам каралеўскай дынастыі Ягелонаў-Ягайлавічаў... І гэта толькі адна з загадкавых старонак мінулага, якую можна прыадкрыць дзякуючы новай кнізе Анатоля Бутэвіча «Таямніцы Крэўскага замка», якая нядаўна пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда».**

З першым на нашых землях мураваным Крэўскім замкам-кастэлем звязаныя лёсы і многіх іншых гістарычных асоб. Вялікія князі літоўскія Гедымін і Альгерд будавалі Крэўскую фартэцыю. У Княскай вежы задушылі вялікага князя літоўскага Кейстута.

З гэтых жа лёхаў у жаночым уборы ўцёк ад сваёй смерці будучы вялікі князь літоўскі Вітаўт. У замку пісаў лісты да Івана Гconverted Грознага першы рускі дысідэнт Андрэй Курбскі.

Старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, які прысутнічаў на прэзентацыі выдання, што праходзіла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, раіў чытаць гэтую кнігу не іначай як пры запаленай свечцы. Каб хутчэй ажывалі здані і прывіды, схаваныя пад цвёрдай вокладкай, каб мінулае падавалася яшчэ больш загадкавым...

Раней у Выдавецкім доме «Звязда» ўжо выйшлі «Таямніцы Нясвіжскага замка» і «Таямніцы Мірскага замка», таксама напісаныя Анатолем Бутэвічам. Вялікая цікавасць чытачоў — найлепшая ацэнка працы гэтага аўтара.

**Ніна ШЧАРБАЧЭВІЧ**



*Фота Яўгена Пясецкага.*

*Анатоль Бутэвіч прадстаўляе сваю кнігу.*

# Святочнае Заслаўе

**У шаснаццаты раз старажытны горад Заслаўе прыняў традыцыйнае свята беларускай музыкі. Пад кіраўніцтвам галоўнага дырыжора і мастацкага кіраўніка Нацыянальнага канцэртнага аркестра, народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга абласны конкурс юных выканаўцаў «Заслаўскі сшытак» на струнных і смычковых інструментах адкрыў фестываль. Удзел у конкурсе ўзялі больш як дваццаць таленавітых дзяцей вобласці. Маладыя артысты выконвалі творы выключна беларускіх кампазітараў. Міхаіл Фінберг напрыканцы конкурсу расказаў нашаму выданню пра асноўныя задачы фестывалю:**

— Галоўная рыса Заслаўскага музычнага свята — правядзенне конкурсу юных музыкантаў, выканаўцаў на струнных музычных інструментах. Нас вельмі парадавалі дзеці, якія вучацца ў музычных школах нашай краіны. Яны прыехалі з розных куткоў, маленькіх гарадоў, каб засведчыць сваё жаданне займацца музыкай. Вельмі шкада, што не было прадстаўнікоў адукацыйных устаноў музычнай сферы, якія маглі б прыглядацца да юных музыкантаў, гэта ж наша будучыня. Мы імкнёмся паказваць гэтую будучыню яшчэ і таму, што традыцыйна на нашых камерных імпрэзах гучыць музыка, якая стваралася ў розныя перыяды беларускай гісторыі кампазітарамі, імёны якіх ці добра вядомыя, але ўпісаныя ў культуры іншых краін (але мы цяпер узгадваем іх як сваіх творцаў), ці наогул адкрываем тых, пра каго на стагоддзі забылі, вяртаем іх айчынны культурны кантэкст. Наступныя музычныя імпрэзы пройдуць у Чачэрску і Хойніках у гонар беларускіх творцаў XX стагоддзя.

Традыцыйнае свята сабрала ў старажытным горадзе шмат гасцей. Акрамя музычнай часткі, у межах фестывалю адкрылася мастацкая выстаўка айчыннага майстра пэндзля, прафесара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Уладзіміра Рынкевіча, у экспазіцыі якога прадстаўлена каля трыццаці акварэляў. Быў праведзены майстар-клас «Зоркі знакамітага аркестра», падчас якога ладзіліся выступленні ансамбля флейтыстаў, трубачоў, кларнетыстаў, струннага аркестра і вакальнага ансамбля.

Свята музыкі ў Заслаўі завяршылася канцэртам «Трыумфуем разам з Бацькаўшчынай», які адбыўся на сцэне гарадскога Дома культуры «Світанак». У ім узялі ўдзел лаўрэаты міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў. Сярод іх такія таленавітыя выканаўцы, як Таццяна Глазунова, Яна Старцава, Аляксандр Салаўёў, Яўген Цымбаліст, Галіна Грамовіч і іншыя.

Сімвалічна, што Год культуры ў Мінскай вобласці пачаўся менавіта музычным фестывалем у Заслаўі. Музычная спадчына Беларусі славіцца сваімі таленавітымі кампазітарамі і гісторыяй. Арганізацыя фестываляў такога ўзроўню — добрая магчымасць яшчэ раз акунуцца ў свет нацыянальнай класічнай музыкі.

**Вікторыя АСКЕРА**

### Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

**30 студзеня** — *на творчую імпрэзу «Дыялог культур» у Цэнтр моладзі Савецкага раёна (вул. Я. Коласа, 47/2) з удзелам пісьменніка Дзмітрыя Дземіідовіча. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**30 студзеня** — *на Баль паэзіі ў Палацы Радзівілаў (г. Нясвіж, Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**31 студзеня** — *на навукова-практычную канферэнцыю «Чалавек вялікай душы і таленту», прысвечаную 95-годдзю з дня нараджэння Івана Шамякіна. Мерапрыемства пройдзе ў бібліятэцы Цэнтральнага Дома афіцэраў (вул. Чырвонаармейская, 3). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**1 лютага** — *на літаратурную імпрэзу «Справа гонару: гісторыя Беларусі ў асобах» з удзелам пісьменніка Валерыя Чудава. Мерапрыемства адбудзецца ў дзіцячай бібліятэцы № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**3 лютага** — *у літаратурны клуб «Пад белымі крыламі» пры гімназіі-каледжы імя В. Ахрэмчыка (вул. Макаёнка, 4) на творчую сустрэчу з паэтэсай Ганнай Чумаковай. Пачатак у 14.30.*

**4 лютага** — *на свята дзіцячай кнігі «Святло дабрыні» з удзелам паэта Міхася Пазнякова. Імпрэза адбудзецца ў дзіцячай бібліятэцы № 6 (вул. К. Лібкнехта, 98). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**4 лютага** — *на паэтычна-музычную імпрэзу «На хвалях натхнення» з удзелам паэтаў Іны Фраловай і Аляксандра Вашчанкі. Мерапрыемства пройдзе ў Белдзяржуніверсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі (вул. П. Броўкі, 4). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**5 лютага** — *на творчую сустрэчу з пісьменніцай Ірынай Лявонавай, якая адбудзецца ў СШ № 23 (вул. П. Панчанкі, 56). Пачатак а 15-й гадзіне.*

## Дайджэст

• Беларускія навукоўцы вырашылі стварыць «Чорную кнігу» — зборнік непажаданых для прыроды краіны раслін. Па папярэдніх звестках, выданне змесціць інфармацыю пра 54 віды. Навукоўцы і даследчыкі Акадэміі навук і нацыянальнага парку-запаведніка «Белавежская пушча» прызнаюць, што дапамагчы ў вырашэнні праблемы можа толькі актыўная барацьба са шкоднымі раслінамі. Дзеля гэтага выданне будзе змяшчаць інфармацыю пра арэал іх распаўсюджвання, развіццё і спосабы барацьбы са шкоднікамі. «Чорнай» кніга называецца ў супрацьвагу «Чырвонай кнізе». Падобныя выданні маюцца ў шэрагу еўрапейскіх краін.

• Прэм'ер-міністр Украіны Арсеній Яцанюк паведаміў, што ў найбліжэйшы час будзе разглежанае пытанне імпарту друкаваных выданняў з Расіі. Ён адзначае, што закрыццё ўнутранага рынку краіны для расійскіх кнігавыдаўцоў дазволіць павысіць попыт насельніцтва на айчынную друкаваную прадукцыю. Прэм'ер-міністр падкрэслівае, што, калі абмежаванне будзе ўведзенае, гэта ніяк не паўплывае на стаўленне да рускай літаратуры і распаўсюджванне тых кніг, што ўжо маюцца ва Украіне.

• Жыхар Масквы патрабуе ад аднаго з рэстаранаў сеткі *McDonald's* 35 мільёнаў рублёў. Пазоўнік Сяргееў сцвярджае, што правы на вершы, выкарыстаныя ў рэкламе фаст-фуду, належаць яму. Уласна аўтарка тэкстаў Адэліна Адаліс пайшла з жыцця яшчэ ў 1969 годзе, а творы яе, па заканадаўстве, могуць публікавацца толькі з пісьмовага дазволу цяперашняга праваўладальніка. Іск Сяргеева быў разгледжаны Цвярскім судом Масквы 18 студзеня, а ўчора прайшло судовае слуханне. Велізарную суму кампенсацыі Сяргееў патлумачыў «уплывам паэзіі рускага літаратара на гледачоў». Таксама да адказнасці ён хоча прыцягнуць тэлеканалы, якія транслявалі рэкламныя ролікі з вершамі Адэліны Адаліс. Юрысты *McDonald's* пакуль утрымліваюцца ад якіх-кольвек каментароў.

• «Беласнежка» братоў Грым з ілюстрацыямі з даваеннага галівудскага мультфільма забароненая ў адной з элітных школ Дохі, сталіцы Катара. Інтэрнацыянальная іспанская школа, у якой навучаецца 150 дзяцей з 27 краін, была адкрытая ў 2013 годзе. Нядаўна бацька аднаго з навучэнцаў уважліва даследаваў кнігу, знойдзеную ў сына, і прыйшоў да высновы, што ілюстрацыі ў ёй непрыстойныя. У іх мужчына знайшоў «яўны сексуальны падтэкст». Упершыню выдадзеная ў 1937 годзе, гэтая кніга перавыдавалася мільённымі тыражамі. Кіраўніцтва школы адразу ж адрэагавала на заяву і папрасіла прабачэння ў бацькоў і навучэнцаў, падкрэсліўшы, што для іх рэпутацыя школы даражэйшая за ўсё.

• Шматгадовае даследаванне дапамагло навукоўцам з Дарэмскага ўніверсітэта распрацаваць спецыяльную методыку па складанні дрэва паходжання казак. Прымяніўшы методыку, навукоўцы прыйшлі да высновы, што самай старажытнай казкай на зямлі з'яўляецца «Каваль і Д'ябал». Першыя вусныя аповеды, што сталі крыніцай для сучаснай версіі казкі, з'явіліся больш як 6 тысяч гадоў таму. Аснова казкі паходзіць яшчэ з бронзавага веку, дзе распавядаецца пра дамову каваля са звышнатуральнымі злымі сіламі. У выніку яе чалавек змог выплаўляць з розных металаў адзіную непарушную канструкцыю. Гэтая гісторыя дэманструе значнасць прафесіі каваля ў бронзавым веку. Падчас працы навукоўцы прааналізавалі 275 казак розных народаў, а ў канчатковай выбарцы засталося 76 базавых гісторый, з якіх «Каваль і Д'ябал» сталася самай старажытнай.



Міхась ПАЗНЯКОЎ

***

Размаўляю з табой
І тайком ганаруся —
Колькі цноты жывой
У маёй Беларусі!

Размаўляю з табой
І зняверыцца баюся —
Колькі веры святой
У маёй Беларусі!

Размаўляю з табой
І ад шчасця свячуся —
Як спагадна ў маёй
Дарагой Беларусі!

Размаўляю з табой
І даверу дзіўлюся —
Неўміручы маёй
Гэткі лёс Беларусі!

Размаўляю з табой
І да сонца імкнуся.
Вельмі горды сабой,

Што я сын Беларусі!

***

Усё знікае ў гэтым свеце,
Апроч любові, дабрыні.
Пакуль ласкава сонца свеціць,
Ім паслужыць не праміні.

Настане час, нішто не вечна,
І хто ў сябрах у злыбедзь, —
Аднойчы знікне і, бясспрэчна,
Сплывуць усе яго сляды.

***

Бягуць гады як рысакі,
Не супыніць і не стрыножыць.
І позірк свой куды ні кінь —
Усё чамусьці больш трывожыць.

І больш мінуламу ты рад,
І больш стамляешся ад тлуму,
І не наперад, а назад
Усё часцей сягаюць думы.

***

Двух майстроў заўсёды шанавала
Нашае руплівае сяло.
Першага, шчаслівае, вітала,
Да другога — гора ўсіх вяло.

Першы заліваўся смехам срэбным,
Сустракаў, віншуючы, штораз,
А другі тужыў, што ён патрэбны
Людзям у гаротны іхні час.

Першы раніцой перад іконай
Працы шчыра ў Госпада прасіў,
А другі, нібы з віной бяссоннай,
Каб яе зусім не мець, маліў.

Не было сялу людзей больш блізкіх,
Залатым іх дзячылі рукам.
Першы майстар вырабляў калыскі,
А другі — дык труны землякам.

***

Восень фарбы мяшае,
Копіць дзён серабро
І выносіць, спяшае,
Падарункі з бароў.

Хутка холадам колкім
Свет ахопяць вятры,
І над возерам волкім
Звісне неба з гары.

Позні вырай над пожняй
Дух зямлі скалане
І настроем трывожным
Ахалодзіць мяне.

Буду ўдумліва крочыць
Па здзіўлёнай цішы
І здымаць будуць вочы
Час на плёнку душы.

А пазней, сумнаваты,
Як надыдзе Пакроў,
Буду слухаць ля хаты,
Белы шорах снягоў.

***

А мне б ізноў вярнуцца ў той дзівосны сон,
Дзе так узнёсла ў роднае староньцы.
Туды, адкуль жыццё ўяўлялася
бясконцым,
Дзе цiхім морам разліваўся сіні лён.

Там зоркі цёпла мне ўсміхаліся ў акно,
За дaлягляды светла вабілі сцяжыны.
І наталялі смагу зыркія ажыны
У таямніча-звонкай засені лясной.

Двор з цягам часу апусцеў, зарос травой,
Асірацела і панікла наша хата.
У вокны пазіраюць ціха, вінавата
Высокія наўкол дзядоўнік з крапівой.

А я ў тым светлым сне ад веснічак бягу,
Каб у святлістай і прапахлай хлебам хаце
Абняць хутчэй жывую, маладую маці,
На сэрцы патушыць гарачую тугу…

## Беларусь і Расія

Ёсць імёны бясконца святыя,
Абагрэтыя сонцам любві —
Дзве сястры — Беларусь і Расія,
Дзве сястры па душы і крыві,

Вочы — сінія промні блакіту,
Чыстых рэк і святлістых нябёс.
Дабрыні і сяброўству адкрытых,
Парадніў іх прадбачлівы лёс.

Праца, росквіт жыцця — іх стыхія,
Мір, і згода, і шчасце для ўсіх.
Дзве сястры — Беларусь і Расія,
Ганарыцеся лучнасцю іх.

У часіны грымотна-ліхія,
У пагрозы жыццю на Зямлі
Дзве сястры — Беларусь і Расія —
Поруч смела і дружна ішлі.

Не гудзіце, завеі густыя,
Не грымі, навальніца бяды.
Дзве сястры — Беларусь і Расія —
Неразлучныя будуць заўжды.

***

Вілася нітачка з кудзелі,
Лагодзіў самапрадкі гуд…
Гады, як птушкі, адляцелі,
Асіраціўшы родны кут.

Хаджу па ціхай нашай хаце,
Нібыта юнаком ізноў
Да незабыўнай, мілай маці
Вярнуўся з далечы гадоў.

Малюнак даўні ажывае,
І кола весела шуміць.
І мама — чуйная, жывая…
Ды нітку часу не спыніць.

Не павярнуць у бок зваротны…
Кручу ў руках верацяно,
Хаджу прачулы і пяшчотны,
Бо знаю — маміна яно.



Фота Ганны Пракаповіч.



Ігар ПРАКАПОВІЧ

***

Закружыла белая мяцеліца
Пад аркестры сіверных вятроў.
Снежная крупа танцуе, сцелецца
У слупах віхурных між дамоў.

А у хаце смачна пахне стравамі...
І на кухні на зыходзе дня
Упрыкуску з жартамі-забавамі
Весела вячэрае сям'я.

***

Каторы год на поле белы снег
зляцеў з нябёс і свет змяніў адразу,
і хай ён гучна падае са стрэх, —
інакшая прыйшла ўжо мера часу.

Мінулі дні…Святло згубілі кветкі…
З жыцця астаўся толькі успамін.
Мяняюцца абставіны і сведкі,
і ў белым свеце ты зусім адзін.

На зрослай сцежцы хісткага сягоння
кусты-забудкі хіляць галаву.
Вось гэты снег — як сімвал-знак
бяздоння,
у якім усё плыве — і я плыву.

Не холадна ад снегу, не трывожна.
Усё белае ад Бога. Будзем Жыць!
Ці не таму і мне імгненнем кожным
Так хочацца вось гэты свет любіць…

***

Снег ляціць і ляціць,
і па радыё кажуць,
што на вуліцы — фронт,
а за фронтам ідуць халады.
Гэта нейкі мастак
Фарбу белую пэндзлікам мажа —
Ён жадае схаваць
Папярэдняй эпохі сляды.

Белы снег. Цішыня.
Часу новы пачатак.
Новых слоў, новых спраў
Першародны адлік.
На анархію з'яў
Накладаецца белы парадак
І з нябёсаў мастак
Беспрасветны здымае парык.

***

Прыляцела зіма з-за мора,
Забяліла прастор завеяй.
І ўсё, што было ўчора,
Адплывае кудысьці, нямее.

Засынаецца снегам поле,
Пакрываецца лёдам рэчка.
За акном зноў вятры скуголяць,
Ну а ім падпявае печка.

Пашырае прастора межы,
І ў пачуццях ізноў святлее,
Калі снежань ваколле снежыць,
Калі вецер сняжынкі вее.



Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

## У Залессі

З радзімаю маэстра
прывітаўся —
Руку падаў я дрэвам і кустам.
Калі пажар паўстання захлынаўся, —
Перада мной той сумны час паўстаў.

Развітваўся з радзімаю Агінскі.
У яго душы гарэў агмень такі,
Што бачны ўсім застаўся след агністы —
Шчымлівы паланэз на ўсе вякі.

Складаліся ў ружанец ноты
з зорак,
Камення, лісця, кропелек расы.
Прыслухацца, — чуваць у гэтым творы
Касіянераў мужных галасы...

Касцюшкі цені граюць прамяніста*,
Тут грэе і зімой зары касцёр...

Свабодалюб і патрыёт Агінскі
Развітваўся з радзімай,
Як з жыццём…

Ці ж мог тады і ў сне ён спадзявацца,
Што лепшай долі зможа прычакаць:
З чужых краёў, як з выраю, вяртацца
І зноў радзіму мілую вітаць…

*У Залессі ўстаноўлены помнік з надпісам «Ценям Касцюшкі».

## Абярэжная песня

Пахіснецца парой
Шар зямны пад нагамі, —
Я табе, а ты мне
Устаяць памагаем.
Я цябе берагу
Рук сваіх берагамі.
Ты мяне беражэш
Рук сваіх берагамі.

Хмель вясновы не раз
Нам галовы закружыць,
Захлісне з новай сілай
Пачуццяў разводдзе.
І з тваіх берагоў
Я часамі выходжу...
І з маіх берагоў
Ты, бывае, выходзіш...

Толькі знойдзеш ці страціш —
Ніяк не ўгадаеш.
Толькі нашы сустрэчы
Жаданей з гадамі.
І ў цябе, як прыток,
Я ўпадаю, ўпадаю...
І ў мяне, як прыток,
Ты ўпадаеш, ўпадаеш...

Не пражыць без разлук.
Ды лягчэй ношу несці, —
Ёсць у нас абярэг, —
З ім надзею мы песцім.
Хай цябе беражэ
Абярэжная песня,
Хай мяне беражэ
Абярэжная песня!

***

Бывае, народзіцца верш і, самотны,
Шукае-гукае сяброўку сабе.
І часам знаходзіць.
І сыплюцца ноткі,
Як зорачкі з неба
Ў спрадвечнай сяўбе.

Здаецца, прырода спявае хвалу ім,
У каханні шчаслівым, чым людзі,
не менш, —
Як музыка верш абдымае-мілуе,
І гожа кладзецца на музыку верш...



Мікола ЧАРНЯЎСКІ

# Ці прымак, ці гаспадар?

*(з жыццёвых быляў)*

Дзядзька Юзік прывык ужо, што кожную раніцу над падворкам чуўся вясёлы клёкат буслоў. Ён любіў гэтых белакрылых птахаў і заўсёды стараўся дапамагчы ім абжыцца на старой таполі. Не баючыся сарваца ды патрушчыць старэчыя косці, пад умольнае божканне жонкі, усцягваў туды вясною барану ці старое кола і ўсё чакаў, чакаў, калі ж крылатыя госці прыляцяць, аблюбуюць новае гняздоўе. Каб яго заўважылі яшчэ здалёк, маглі вольна падлятаць ды садзіцца, не шкадаваў лішніх сукоў і расахатых галін: няўмольна абразаў іх, абвязаўшыся вяроўкаю, каб, крый божа, не сарвацца з вышыні. Але ж буслянка праз два-тры гады зноў зарастала, «хавалася» ў суччы ды галінах, і дзядзька Юзік з прыкрасцю назіраў, што буслы, пакружыўшы над старым гняздоўем, не садзіліся, як раней, а некуды адляталі. Мабыць, у пошуках болей прыдатнага жытла. Зноў узбірацца на верхатуру таполі не было ўжо спрыту і сілы, і на ўсё лета двор, здавалася, сірацеў, застаўшыся без буслінай «музыкі».

Апошнім разам дзядзька Юзік усцягнуў кола на спілаваную вяршаліну прысадзістага ясеня, што рос каля самай адрыны. І, як дзіця, быў рады, што яго «зруб» спадабаўся буслам: яны ж у першае лета давялі жытло да ладу, абжылі яго, а пад восень выбраліся ў далёкую дарогу, паставіўшы ў ім «на крыло» не двойню, а тройню такіх цыбатых ды дзюбатых дзетак.

На старым ясені буслы гнездаваліся ўжо не адно лета. Кожны дзень узляталі і вярталіся параю. Аднае раніцы, выйшаўшы на ганак, дзядзька Юзік чамусьці не пачуў вясёлага пошчаку. Да таго ж убачыў: у гняздзе, апусціўшы дзюбу, стаіць толькі адна птушка. А дзе ж бусел? «Відаць, паляцеў на сенажаць снедаць», — падумалася дзядзьку Юзіку.



Фота Кастуся Дробава.

Звечарэла. Звычайна ў такі час буслы збіраюцца на начлег разам. А гэтая зноў адна. Тое ж самае — раніцай наступнага дня. Устрывожыўся дзядзька Юзік, суседа клікнуў, які выганяў каровы з двара на пашу.

— Ты паглядзі-тка, Стась, ці не здарылася нешта. Бусел на начлег не з'явіўся. Такога ж быць не можа.

Сусед задраў галаву, зірнуў на буслянку.

— І праўда. Да іх не падобна, каб недзе ды затрымаўся, да чужога гнязда прыстаў. Можа, які дурань падстрэліў ці сам дзе ў электраправады сунуўся і загінуў. Як у нас тут нядаўна.

Дзён дзесяць сумавала бусліха адна. Мусіць жа, яна, бо на паляванне часцей лятае гаспадар буслянкі, а самка яйкі выседжвае. Шкада было яе дзядзьку Юзіку, ды нічога не зробіш, не дапаможаш. Гэта ж не кола ці барану ўсцягнуць на дрэва. «Што ж такое здарылася?» — не пераставаў турбавацца дзядзька Юзік. Дый сусед не заставаўся абыякавым, не-не ды цікавіўся: «Усё адна?»

Аднаго дня прылятае раптам да гняздоўя цэлая бусліная талака. Кружацца ля буслянкі, падлятаюць да буслíхі, што стаіць на крайку гнязда, а не садзяцца. Бо толькі памкнуцца да гнязда — бусліха ў бой. Не падпускае ніводнага. Гэтак працягвалася тры дні. Потым буслы паляцелі. Застаўся толькі адзін. Ён сеў на галіну пад гняздом. Доўга сядзеў, задуменна водзячы дзюбаю, раз за разам падымаючы яе ўгару, дзе «трымала абарону» гаспадыня буслянкі. Нарэшце ўзмахнуў крыламі, узляцеў, зрабіў над буслянкай два кругі і… апусціўся ў гняздо, стаў побач з ёю. Шчаслівы клёкат пачуўся над вёскай. Радаваліся птушкі, радаваўся дзядзька Юзік: «Бач ты, пакахаліся ўсё ж! А можа, даравала грэх?»

А гаспадыня буслянкі і новы гаспадар, клякочучы, мілаваліся: пяшчотна бралі дзюба ў дзюбу, нібыта цалаваліся. Была поўная згода. Вяскоўцы ж дзівіліся: ці буслы адшукалі дзесьці ранейшага гаспадара-валацугу і прывялі яго да роднай буслянкі, ці любы прымак знайшоўся? Хто ведае: не спытаеш жа ў іх…

# Не ўсё смачнае, што з маслам…

Кажуць, бальнічная яда трошкі сытнейшая, чым вада. Не ведаю. Сам я, сядаючы за стол у бальнічнай сталоўцы, ніколі не грэбаваў, не наракаў на тамтэйшае меню. Колькі я назіраў, мала хто адмаўляўся, прапускаў той момант, калі трэба было, адбыўшы прызначаныя працэдуры, тэпаць за такімі ж, як і сам, у сваю ўстанову харчавання. Тады пусцелі палаты, а хворыя, усе хадзячыя мужыкі і жанкі, старыя і маладыя, з кубкамі, лыжкамі ды відэльцамі (з усім сваім!) спяшаліся стаць у чаргу да кухоннага акенца, дыхаючы адзін аднаму ў патыліцу, як у часе перабудовы ля крам. Праўда, тут, у бальнічнай чарзе, настрой быў трошкі весялейшы: кожны ведаў, што хоць нешта ды перападзе. І сняданак ці абед не такія ўжо нішчымныя прадбачацца: вунь на талерцы ў раздатачным акне чакаюць свайго спажыўца жоўценькія, як малыя сонейкі, дзесяціграмовыя круглячкі масла. Разлічана: на кожнага — па такім сонейку-круглячку.

Стаю, перамаўляюся з суседам па палаце Аляксеем. За два ці тры дні выпадковага знаёмства ў гэтым не такім ужо гасцінным доме ведаю: добра-такі маладзейшы за мяне, абедам не кармі, а дай пра рыбалку пагаманіць. І рыбацкіх гісторый у яго — як тых плотак ды падлешчыкаў у торбе пасля ўдалага ўлову.

Ёсць яшчэ адна па-свойму адметная, асабістая звычка ў кожнага бальнічнага пацыента: хочацца хоць нечым паспачуваць, паспрыяць такому ж гаротніку, як і сам. Я — не выключэнне. Тым больш у сталоўцы, перад акенцам з талеркай жоўценькіх масляных сонейкаў. Я з маленства, хоць і даволі добра пагаладаць пасля вайны, не люблю малочнага: ні смятаны, ні масла, ні малака нават. Іх пах за вярсту чую. А каб есці… Можа, толькі нос зацiснуўшы, сцяўшы дыханне, як гэта, здаралася, рабіў падчас гасцявання ў цешчы на вёсцы. А пасля вымушанага падпарадкавання суровай дыеце, выкліканай нападкамі страўнікавых хвароб, нічога больш-менш тлустага я ўжываць не мог. Таму ўпэўнены, што лішні «пятачок» масла яму, магчыма, не зашкодзіць, я прапанаваў суседу па палаце:

— Аляксей, я масла не ем, дык ты вазьмі маю порцыю сабе. Табе, прывычнаму да наварыстых рыбацкіх юшак і няхілых бутэрбродаў з салам, гэты «пятачок» няўзнак будзе.

Думаў, ён, як гэта рабілі некаторыя раней, ахвотна пагодзіцца з маёй прапановай, падчэпіць відэльцам той лішні круглячок, пакладзе на скібку батона ці ў кашу ў сваёй талерцы, а аднапалатнік Аляксей толькі пасміхнуўся:

— Я ўжо гадоў дваццаць пяць на гэта масла глядзець не магу.

— Чаму? Хіба не чуў, што маслам кашу не сапсуеш?

— Кашу, можа, і не сапсуеш, а што іншае — дык яшчэ падумаць трэба. Не ўсё смачнае бывае, што з маслам. — І зноў неяк загадкава ўсміхнуўся: — З ім цэлая гісторыя ў мяне была. Прыйдзем у палату — раскажу.

І праўда. Пасля абеду, калі ўсе мы, прывычныя падпарадкоўвацца патрабаванням «ціхага часу», сабраліся адпачываць, Аляксей распавёў сваю гісторыю.

— Нас у сям'і чатырнаццаць дзяцей гадавалася. Бацька рана памёр. Збіраўся новую хату паставіць. Калі тралявалі лес, па недаглядзе пад сані з бярвеннем трапіў. Хоць няхілы, здароўя моцнага быў, усё ж не выжыў, пакінуў нас сіротамі. Што рабіць было адной маці з такой басаногай і галоднай хеўрай? Раскідалі нас, малалетак, па дзіцячых дамах. З дзіцячага дома я ў школу-інтэрнат трапіў. Адтуль паступіў у Смілавіцкае тэхнічнае вучылішча. Набыў спецыяльнасць цесляра-сталяра. Па сённяшні дзень не памяняў яе, корміць мяне і сям'ю. Заробак дазваляе. А тады… Малады быў, прысмакаў розных паспытаць хацелася, а стыпендыя мізэрненькая была, з дому ніякай падмогі. Падчас вытворчай практыкі мне першую зарплату выдалі. Не такую ўжо вялікую, але ж нешта можна ўжо было купіць, дазволіць сабе «раскашэліцца».

Зайшоў у гастраном — вочы разбягаюцца, столькі ўсяго ў вітрынах. Цукеркі, пячэнне, шакаладкі, булачкі, сушкі… Але ж за ўсё плаціць трэба, а грошы на ўсё такое траціць шкада. Нешта ж з адзежы прыкупіць хацелася. Хоць кашулю нейкую… Маракаваў, маракаваў я, ды вырашыў салодкага жыцця паспытаць без асаблівай траты. Купіў з кілаграм масла, ды не абы-якога, а шакаладнага. Яно ж тады, калі памятаеце, не так ужо дарага каштавала, усім па кішэні было. Разрэзаў батон уздоўж на дзве палавіны, намазаў маслам без лішняй шкадобы, уплятаць напоўніцу пачаў, запіваючы напіткам журавінным. Тады ён таксама не быў дэфіцытам, усюды прадаваўся. І на смак быў не горшы, чым тое масла шакаладнае.

Малады арганізм на яцьбу ахвочы, асабліва не разборлівы ў ёй, ды яшчэ згаладалы… А масла саладжавенькае такое, само ў рот просіцца, растае, толькі паспявай каўтаць. Змянташыў яго я разы за два, нават не абліznуўся добра. Ніхто не падказаў, не сказаў «тпр-ру», а свайго розуму не хапіла…

З той пары прайшло, як я казаў ужо, дваццаць пяць гадоў, а на масла глядзець не магу, ахвоту на яго як абухом адбіла. Калі ж па тэлевізары пачую рэкламную песеньку «Если диарея вас срывает с места…», дык па целе раптоўна дрыжыкі прабягаюць, хочацца нечым запусціць у той экран. Тады здаецца, што гэта ж яны з мяне смяюцца, з бедалагі дзетдомаўскага. Я ж тады ледзь практыку не заваліў, дні тры на аб'екце не паказваўся. Чаму? Хіба цяжка здагадацца, чаму?

Мы, канечне ж, здагадаліся.

Падагрэтыя гэтай гісторыяй, не маглі супакоіцца: усіх разбіраў нейкі дурны смех. Нават не пазбаўленая пачуцця гумару медсястра Галя, якая прабягала па калідоры, пачуўшы нашу вясёлую ўзбуджанасць, не прамінула зазірнуць у палату:

— Хлопцы, што я чую?! Не перашкаджайце адпачываць суседзям. Там — пасля рэанімацыі… Калі вы што смешнае ў час абеду з'елі, прытрымайце яго на пазней.

— Гэта не мы, гэта ён з'еў, — быццам не пачуўшы яе ўшчування, хіхікнуў старэйшы з нас аднапалатнік Жэня, ён жа Яўген Барысавіч з-пад Магілёва, тыцнуўшы пальцам у бок Аляксея.

Медсястра прычыніла дзверы, я ж паспрабаваў паджартаваць яшчэ, можа, і не зусім удала:

— Табе, Аляксей, не пашанцавала тады, затое пашанцуе цяпер. Будуць перад аперацыяй касторку «прастаўляць», дык тваім жывату такая экзекуцыя ўжо не ў навіну будзе. Ён, лічы, таксама тады практыку прайшоў.

— Прай-шо-оў, — з ноткамі іроніі ў голасе пагадзіўся Аляксей. — Праўда, касторка не шакалад, але ж паглядзім, як яно будзе.

Папярэджаныя медсястрою, у гэты раз такі жарт усе прынялі стрымана, нават моўчкі. Толькі Аляксей, як мне пачулася, працяжна ўздыхнуў: чакаць заставалася нядоўга…

# Такія розныя празаікі

**Свята Калядаў і змрочныя апісанні горада, гістарычная дакладнасць і неўтаймоўная рэфлексія, узнёслая сталасць і іранічная маладосць — усемагчымыя адценні прозы сабралі «Казкі майго горада». Зборнік — творчая справаздача, падрыхтаваная выпускнікамі Школы маладога пісьменніка 2013/2014 года.**

Таленавіты твор пазнаецца з першай старонкі. Дый гэтага зашмат: дастаткова двух абзацаў, каб зразумець, што апавяданне жывое. Адзін празаік даводзіў, што хопіць усяго пары сказаў.

Як пачынаюцца апавяданні з «Казак...»? Маладыя пісьменнікі ідуць двума шляхамі, і трэцяга не дадзена: альбо чытач трапляе адразу ў дзею, уклінъваецца ў размову герояў ці развагі аўтара, альбо сузірае пейзаж. Часцей за ўсё празаікі ідуць на абардаж. Сапраўды, не ведаеш, як пачаць, пачні як-небудзь, а потым адкінь два першыя сказы. Ці пачні з сярэдзіны. Праўда, з'яўляецца рызыка, што аўтара не зразумеюць. І добра, калі ключ знаходзіцца пад канец, але ж бывае і так, што многае застаецца за заслонай, і гэта не тая недасказанасць, якая ўпрыгожвае апавяданне.

Празаічныя тэксты Антона Рудака найбольш блізкія да навелы: ніякіх размаітых уступаў, напружанае дзеянне з першых сказаў, канфлікт, нечаканыя павароты, трагічная развязка — а то і не сама развязка, а толькі намёк на яе, што дадаткова «ўзмацняе» трагедыю. «Дзень вызвалення» ў дзве старонкі, лічы, разгарнуў маленькую грамадзянскую вайну, у якой сутыкаюцца палітычныя погляды і чалавечыя прыхільнасці, непадзеленае каханне. Пры гэтым застаецца інтрыга — безумоўны плюс. І ў той жа час творы («Ружанец» у тым ліку) не маюць патрэбнай завершанасці, выглядаюць як урыўкі з аповесцей. Асабліва калі звярнуць увагу на тое, што львіная доля тэксту прыходзіцца на дыялогі, і словы аўтара выступаюць як звязка між словамі герояў. Такая канцэнтрацыя дыялогаў для навелы зусім не характэрная. «Ружанец» і «Дзень вызвалення» — фрагменты іншых, буйнейшых і пакуль яшчэ не напісаных твораў. Сухаваты, але не тое каб лаканічны стыль. Героі раскрываюцца ў дыялогу, у дыялогу ж узнікаюць значныя дэталі, па якіх можна прадказаць паварот сюжэта. Аўтар выступае як назіральнік з грунтоўнай гістарычнай падрыхтоўкай, прычым назіральнік моцна зацікаўлены сваімі героямі. Станоўчыя і не вельмі, яны пакідаюць пытанні, і, нягледзячы на гэта, аўтар ім сімпатызуе... Словам, будучая аповесць Антона Рудака, эскізы якой змешчаны ў «Казках майго горада», мусіць быць займальнай і змястоўнай.

Яшчэ адно слова датычна тэкстаў гэтага аўтара — мова. Здаецца, ён аднолькава добра валодае рускай і беларускай. Але ў рускамоўным «Дні вызвалення» словы чапляюцца адно за адное, кепска ладзяць між сабою, у той час як «Ружанец» (менш зразумелы сюжэтна) гучыць гарманічна, мова ў ім абаяльная і на яе, урэшце, асобна не звяртаеш увагі.

Зусім іншая руская мова ў Андрэя Лазуткіна. Рэзкаму, хуліганістаму, знарочыста задзірліваму аўтару пасуюць усе яе вострыя куты і выпіны. Мова аўтара безумоўна літаратурная, хоць і стылізаваная пад расповед сына вуліц і двароў. Аповед вядзецца ад першай асобы, адсюль і характэрныя слоўцы-выразы: «почирикать с подружками», «полудохлые розы», «глазищи хитрые», «потянулась на цырлах». Надзвычай натуральны персанаж, натуральная мова, стрыманы і вынаходлівы іх стваральнік. Якраз на стрыманасці аўтара «Французскай парфумы» трэба затрымаць увагу. Такі каларыт вельмі спакуслівы, развязвае рукі,




бо на персанажа, ад імя якога прамаўляеш, можна спісаць што заўгодна, любую вольнасць. Але Андрэй Лазуткін мае дакладнае адчуванне меры, якое ні разу яго не падводзіць. Апавяданне пры сваёй моўнай нестандартнасці не вульгарнае, не «дваровае», але наадварот — ледзьве не шчымлівае праз гэтую сваю шчырасць і найчысцейшую лірыку. Тое, што можна было б прыняць за сцёб, — процівага сентыментальнасці, абавязковы дамешак, без якога твор быў бы далёка не такі праўдзівы.

Але чаму «Казкі майго горада»? Празаікі новай генерацыі ўжо не пачуваюцца «сенам на асфальце». Горад для іх не ўяўляе нешта таямнічае, ці страшнае, ці прывабна-ружовае. Гэта звыклая прастора існавання, і яе законы, спазнаныя і асэнсаваныя, увасабляюцца ў найноўшых празаічных творах. Толькі здаецца, што сена на асфальце — тэрмін неактуальны ўжо гадоў як дзесяць ці болей. Насамрэч, толькі-толькі вёска перастае супрацьпастаўляцца гораду. Аднак варожая афарбоўка апошняга застаецца. Чалавек сярод тысячы такіх жа, як ён, пачуваецца самотна, і вясковыя карані тут ні пры чым. Шэрыя гмахі навісаюць над уражлівымі душамі, капцяць ліхтары ў цемры, у невядомасць ідуць цягнікі…

> *Маладыя пісьменнікі ідуць двума шляхамі, і трэцяга не дадзена: альбо чытач трапляе адразу ў дзею, уклінъваецца ў размову герояў ці развагі аўтара, альбо сузірае пейзаж. Часцей за ўсё празаікі ідуць на абардаж.*

Але ёсць і іншы горад. Ён альбо знаходзіцца недзе далёка, скажам, на Кіпры ці ў Францыі, як у творах Артура Камароўскага, альбо афарбаваны святочным настроем, як у калядных апавяданнях Ксеніі Шталенковай. Горад у кожнага атрымліваецца свой, хоць бы гэта і быў усё той жа Мінск. І ў кожнага такога горада — свая гісторыя. Казачная? Рэдка, калі пад казачным разумець нешта светлае-добрае. Гэта гісторыі людзей з іх паўсядзённымі турботамі, стратамі і надзеямі, якім не спраўдзіцца. Адныя гісторыі аўтары назіраюць здалёк, у іншых яны самі героі.

Горад Марыі Бяльковіч паўстае праз уражанне. Колер, пах, выпадковы гук маюць большае значэнне, чым дакладная геаграфія. На першым месцы — аўтарскае Я. У адным аповедзе горад і вобраз каханага сплятаюцца. Іншым разам у дуэце вобразаў — разбіты ліхтар і ліхтаршчык, які напаўняе апошняга жыццём, разлівае ў ім гарачыню сваім дакрананнем, — таксама няцяжка ўгледзець інтымную падаснову. Аднак для яркай, запамінальнай імпрэсіі Марыі Бяльковіч не хапае нечаканых вобразаў, супярэчнасцей, якія б адкрылі звыклую карціну ў новым ракурсе, не хапае выразнасці мастацкай мовы.

Для Аляксея Карпекі імгненнае ўражанне таксама мае большае значэнне, чым уласна аповед, хоць у яго творах ёсць намёкі на сюжэтнасць, і сюжэты гэтыя — змрочна-фантастычныя. Для аўтара перадусім важна стварыць карцінку, ён робіць стаўку на візуальны вобраз. Але насуперак гэтаму моцны бок яго таленту якраз у накідах з натуры, кшталту «снежинки прилипали к пальто, точно мошки к потному, липкому телу». Такіх небанальных параўнанняў чакаеш і надалей, але аўтар аддае перавагу апісанням ап'янення, тутунёвага дыму і самоты.

Зося Іванюціна і Мілана Пасанен — аўтары, якія аднолькава захапляюць непасрэднасцю аповеду. Разглядаць іх разам тым больш цікава, што спадарыня Зося — бабуля спадарыні Міланы. Першая звяртаецца да ўспамінаў маладосці, праз якія паўстае шчырая, даверлівая, але разам з тым іранічная дзяўчына. Ад такой гераіні заўжды можна чакаць цікавых каментарыяў датычна рэчаіснасці. Гэтую рысу пераняла Мілана: яе «Каралева рулету» трапна прыкмячае камічнасць аднагодкаў, але яе нататкі зусім не з'едлівыя: у іх ёсць кранальнасць свежага погляду, да ўсяго, пакепліванне з падлеткавых драм (асабліва датычна «любовей») закранае і самую апавядальніцу. Пры такім здаровым поглядзе на паўсядзённасць і сябе, а таксама гульні са словам (пакуль на ўзроўні адкрытага эксперымента, калі аўтар здзіўляецца сэнсавым паваротам і прапаноўвае падзівіцца чытачу) ад Міланы Пасанен можна чакаць небанальных твораў, а галоўнае — чытэльных. Школа дае відавочны плён.

> *Сярод аўтараў «Казак майго горада» большасць паказалі здольнасць выбудаваць сюжэт, стварыць жывых герояў, якіх можна адрозніць адно ад аднога без падказкі аўтара. Зрэшты, асобныя аўтары ўжо і не пачаткоўцы: вядомыя Антон Рудак, Ксенія Шталенкова, Андрэй Лазуткін.*

Усё тая ж іронія, але прыхаваная лірыкай, — у замалёўках Дар'і Латышавай, схільнай больш да роздуму над мінулым, чым да фіксацыі цяперашняга, і пачуцці для яе — нагода для развагі.

Прыкметна вылучаецца апавяданне «Буферная зона» Міраслава Шапавалава. Яно магло б стацца паўнавартаснай аповесцю, балазе персанажаў і фактычнага матэрыялу, як і майстэрства аўтара, стае. Гэта гісторыя сям'і, якую з роднага дому на Кіпры выгнала вайна. Невялікі твор змясціў сямейную сагу ў мініяцюры: шчаслівае дзяцінства, крыху перадгісторыі, вайна, раскол сям'і, асабістыя страты на фоне трагедыі народа, праблемы мігрантаў, вяртанне, новая трагедыя — пусты дом як дакор, адчуванне сябе здраднікам і, урэшце, погляд у будучыню. Міраслаў Шапавалаў, як і Антон Рудак, абапіраецца ў аповедзе на гістарычны матэрыял, аднак ён больш лірычны апавядальнік. Перадусім таму, што спадар Міраслаў ужываецца ў ролю галоўнага героя і можа перадаць яго пачуцці.

Падобны матыў — расстанне з домам і пачуццё віны — у прозе Артура Камароўскага, але тут асабісты фактар узмацняецца яшчэ больш. Аўтар рэфлексуе, надае шмат увагі прыродным замалёўкам, і, пра што б ні пісаў, галоўным у аповедзе застаецца ён сам. Мінорны матыў увогуле пераважае ў зборніку, і частае слова ў ім — «смерць». Гіне герой Паўла Якуця; аўтар фактычна паказвае гібель юнака, які насамрэч загінуў раней, не здолеўшы змірыць у сабе супрацьлеглыя жаданні. Вырачаная на гібель гераіня Лілії Гусаравай. Са смерцю сутыкаюцца дзеці ў апавяданнях Вольгі Агапонавай, праўда, не з рэальным яе абліччам, а збольшага сімвалічным: так змякчаецца непазбежнае. Безвыходнасць, здавалася б, у апавяданні «Чужое жыццё» Стасі Кацюргіной. Тут паэтэса, якая сцвердзіла сябе як аўтарка інтымнай лірыкі, працягвае ўсё той жа матыў — усеабдымнасць кахання, прага нарадзіць. Але ў прозе ўсё паварочваецца трагедыяй.

І ўсё ж жыццё выходзіць пераможцам. Маладыя аўтары не прымаюць смерць як нешта незваротнае: Павел Якуць дае герою працяг ва ўратаванай дачцэ, Лілія Гусарава надзяляе гераіню звышчалавечым аптымізмам, Вольга Агапонава, як мы ўжо казалі, ператварае старую з касой у нешта прывіднае, а гераіня Стасі Кацюргіной пражывае іншае жыццё — і не мае значэння, што яно несапраўднае: для самой гераіні ўсё рэальна.

> *Празаікі новай генерацыі ўжо не пачуваюцца «сенам на асфальце». Горад для іх не ўяўляе нешта таямнічае, ці страшнае, ці прывабна-ружовае. Гэта звыклая прастора існавання, і яе законы, спазнаныя і асэнсаваныя, увасабляюцца ў найноўшых празаічных творах. Толькі здаецца, што сена на асфальце — тэрмін неактуальны ўжо гадоў як дзесяць ці болей.*

Ураўнаважваюць трагедыю калядныя гісторыі Юліі Мароз і Ксеніі Шталенковай. Спадарыня Юлія прапаноўвае чытачу казку — для дзіцячай аўдыторыі цалкам прымальную. «7 апавяданняў на 7 калядных вечароў» Ксеніі Шталенковай — таксама казка, але ўжо для сталага чытача. Галоўнае дасягненне аўтаркі нават не ў рэалістычных героях ці абаяльнасці мовы, але ва ўменні стварыць патрэбную атмасферу. Дух аповедаў, звязаных між сабой ланцужком герояў, — самы што ні на ёсць калядны. Цуд тут просты: ніхто не застаецца самотны. У той жа час за святочнай гісторыяй праступаюць будзённыя пытанні: як часта мы сутыкаемся з людзьмі, якім патрэбна крыху ўвагі, крыху цяпла, але застаемся безуважнымі? Чаму б цуд чалавечай увагі не спраўджваць ва ўсякія іншыя дні? Героі Ксеніі Шталенковай вельмі розныя — па ўзросце, прафесіі, стаўленні да святаў, светапоглядзе, — але ўсім патрэбна адно: чалавек. Што да майстэрства аповеду, тут спадарыня Ксенія толькі пацвердзіла ўменне трымаць чытацкую ўвагу.

Сярод аўтараў «Казак майго горада» большасць паказалі здольнасць выбудаваць сюжэт, стварыць жывых герояў, якіх можна адрозніць адно ад аднога без падказкі аўтара, па адным толькі маўленні. Зрэшты, асобныя аўтары ўжо і не пачаткоўцы: вядомыя Антон Рудак, Ксенія Шталенкова, Андрэй Лазуткін; радзей гучыць імя Мікіты Волкава, але ён не менш запамінальны празаік. У выпадках, калі аўтары захопленыя асабістымі перажываннямі і займаюцца іх занатоўваннем, хочацца заўважыць — хоць бы з чытацкага пункту гледжання, — што такія нататкі вялікай цікаўнасці не ўяўляюць (хіба што ты віртуоз мовы). Іншая справа, калі рэфлексія належыць герою, выразнаму і супярэчліваму, жывому.

Чытачу перадусім патрэбны апавядальнік. Памятаеце? «Усе жанры добрыя, акром сумных».

**Наста ГРЫШЧУК**

# З чаго пачынаецца новы радок?

**Восенню мінулага года ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга, на якую варта звярнуць пільную ўвагу, — зборнік прозы і паэзіі «Мой дзень пачынаецца», дзе сабраныя творы 45 маладых аўтараў.**

Гэтае выданне — спроба дапамагчы маладым творцам выйсці на шырокі прастор (апублікавацца ўпершыню не так проста) і пазнаёміць чытача з лепшымі прадстаўнікамі новага пакалення літаратараў (з дзвюх тысяч накладу зборніка палова разышлася па бібліятэках краіны).

Кніга атрымалася вельмі прывабнай не толькі па змесце, але і па афармленні: нестандартны фармат, паўцвёрдая вокладка, арыгінальная вёрстка, крэатыўны дызайн, над якім працавалі таксама маладыя мастакі выдавецтва. У зборніку можна пабачыць даволі поўную панараму нашай маладой літаратуры: тут і фантастыка, і міфалогія, постмадэрнізм і рэалізм, — адным словам, сучаснасць, якой яе бачыць новае пісьменніцкае пакаленне.

Зрэшты, калі зірнуць на змест новай кнігі, можна пабачыць і досыць вялікую колькасць ужо вядомых у літаратурных колах імёнаў. Празаікі Алёна Беланожка, Алена Мальчэўская, Ксенія Шталенкова і Сяргей Календа маюць свае кнігі. Паэтэсы Яна Явіч, Кацярына Массэ, Людміла Клачко выдалі зборнікі вершаў, а паэт Міхал Бараноўскі знаёмы публіцы і як музыкант, аўтар песень і лідар гурта «Нельга забыць». Паэтэса Ганна Чумакова таксама часта з'яўляецца на сцэне і выконвае песні на ўласныя вершы. Асобы некаторых аўтараў з гэтай кнігі адкрываюцца зусім па-новаму. Так, даследчыцы літаратуры Вераніка Мандзік і Ірына Чарняўская, журналістка Ірына Карэліна паўстаюць як паэтэсы, а журналістка і літаратурны рэдактар Ганна Шыбут — як празаік. Імёны ж многіх аўтараў з кнігі пакуль невядомыя для чытача, і ўражанні ад гэтага выдання стануць сапраўды першым спатканнем з творамі маладых літаратараў.

Пра што пішуць прадстаўнікі новага пісьменніцкага пакалення? Хтосьці апісвае першае каханне, хтосьці малюе антыўтопію, хтосьці, як Таццяна Купрыянец, звяртаецца да тэмы Вялікай Айчыннай вайны. Вельмі здзіўляе, калі даведваешся, што Таццяне ўсяго 23 гады, але узрост зусім не заўважны ў яе вершах — глыбокіх, пранізлівых, без лірызму, які ўласцівы маладым паэтэсам, але з павагай і гонарам. Уражвае, што маладзёны, якія нарадзіліся нашмат пазней Айчыннай вайны, так трапна пра яе пішуць, што сведчыць пра цікавасць да гісторыі і пацвярджае крылаты выраз «Ніхто не забыты, нішто не забыта».

Крысціна Бандурына распавядае лірычна-настальгічную гісторыю пра першае працоўнае лета, калі на вакацыях прадавала марожанае, і пра кубак кавы, паднесены незнаёмым маладым чалавекам. Твор вельмі атмасферны: цёплы, па-юнацку шчыры і абаяльны. Асабліва добрая мова — апавяданні чытаюцца на адным дыханні, нібы слухаеш успаміны сяброўкі, з якой даўно не бачыліся. Алёна Беланожка піша пра русалку: злавілі небараку студэнты падчас фальклорнай практыкі і давай вывучаць. Тут табе і прыгоды, і таямніцы, і іронія — усё гэта ідэальна складваецца ў шкляны каляровы вітраж, праз які можна зазірнуць у сваё студэнцкае мінулае і адчуць прыемнае цяпло настальгіі. Героя аповеду Мікіты Волкава каханая дзяўчына вязе знаёміцца




да бацькоў. Вось толькі ці гатовы хлопец да сур'ёзных адносінаў? Цікавы, інтрыгуючы сюжэт, самабытная беларуская мова, вастрыня пачуццяў і жорсткі рэалізм — усё гэта вылучае творы маладога доктара Волкава. Закаханасць у сваю настаўніцу — тэма лірычнага аповеду Андруся Данілевіча. Здаецца, збіты сюжэт, знаёмыя пачуцці, але ўсё роўна чытаеш з непрыхаванай цікавасцю. Можа, таямніца ў філігранна выпісаных дыялогах, якім верыш, а можа, у шчырасці пачуццяў, але адно можна сказаць дакладна: без таленту тут не абышлося.

Тэксты празаіка Сяргея Календы — парадаксальныя і іранічна-сумныя. У іх адлюстраваная наша рэальнасць: хлопчык у апавяданні «Хлеб свой пускай па вадзе» гіне ў час тэракту ў метро. У кароткім апавяданні Сяргею Календу ўдалося ўзняць не адну вечную тэму: тут і праблема бацькоў і дзяцей, і пошук сэнсу жыцця, ну і, вядома ж, супрацьстаянне жыцця і смерці. Пісьменнік вельмі таленавіта ўплёў усе гэтыя ніткі жыцця ў канву лёсу свайго героя, таму твор нікога не пакіне абыякавым. Герой Паўла Якуця хоча стаць мніхам, але даведваецца, што ў яго ёсць дачка. Грэх? Выпрабаванне? Адназначнага адказу быць не можа, хоць павароты сюжэту выклікаюць супярэчлівыя пачуцці: ад раздражнення і асуджэння да спагады і шкадавання галоўнага героя. Што натхняе маладых людзей на такія аповеды: уласны досвед ці багатая фантазія? У любым выпадку, тэкст напісаны вельмі якасна, відаць праца над кожным выразам, кожным слоўцам — усё дарэчна і на сваіх месцах.

Ксенія Шталенкова прапануе цыкл кароткіх аповедаў пра навагоднія ялінкі: сямейную, самотную, лёсавызначальную, суседскую, карпаратыўную. Тыя, хто чытаў прозу Ксеніі, зможа без цяжкасцей яе пазнаць: у маладой пісьменніцы ўжо сфарміраваны стыль, сістэма вобразаў, мастацкіх прыёмаў, але пры гэтым ёй ўдаецца раскрываць новыя грані свайго таленту. Карацей, творы на любы густ.

Упэўнена, што 45 імёнаў дастаткова, каб скласці ўяўленне пра сённяшні літаратурны працэс, але вылучыць кагосьці цяжка, бо ўсе пісьменнікі розныя, у кожнага свая фішка, свае асаблівасці, прыёмы і хітрыкі. Укладальнік зборніка і галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктар Шніп для сябе вылучыў наступных творцаў: Вольгу Агапонаву, Яўгена Казарцава, Алену Бабіч, Наталлю Баламут, Мікіту Волкава, Кацярыну Карповіч, Ірыну Карэліну, Ганну Чумакову, а таксама Людмілу Клачко і Кацярыну Массэ, якія нядаўна былі прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Імёны гэтых аўтараў не будуць адкрыццём для тых, хто чытае часопісы «Нёман» і «Маладосць». Віктар Анатольевіч адзначыў, што выдавецтва «Мастацкая літаратура» падтрымлівае творчую моладзь — яны будучыня нашай краіны і ўсёй беларускай культуры. А выданне першай кніжкі ў адным з буйных дзяржаўных выдавецтваў — вельмі важная падзея не толькі для аўтара, але і для ўсёй сучаснай беларускай літаратуры.

Ёсць у кнізе «Мой дзень пачынаецца», апроч магчымасці пазнаёміцца з новымі імёнамі айчынных творцаў, яшчэ адна станоўчая рыса. Выданне можа стаць добрым натхняльнікам для тых аўтараў, якія пакуль пішуць «у стол» (ці папку ў камп'ютары) і саромеюцца паказаць свае творы шырокай аўдыторыі. Магчыма, менавіта на такі эфект разлічвалі выдаўцы, калі побач з імёнамі творцаў пазначалі толькі гады іх нараджэння. Маўляў, няважна, дзе і кім працуе аўтар, дзе ён нарадзіўся і вучыўся, важныя — толькі творчасць, толькі маладосць!

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

---

Напэўна, кожны з вас адчуваў (ці яшчэ калі-небудзь адчуе) на сваёй скуры гэтае «катаванне». Я яго называю «катаванне чаргой» — гэта калі мама нечакана ўспамінае пра нешта і кажа табе: «Пастой сынок, я хутка». І гэтае «хутка» цягнецца пакутлівымі хвілінамі чакання. А чарга пачынае рухацца хутчэй... дыхаць ты ўжо зусім не можаш... І вось апошні пакупнік, а наступны ты! А мамы ўсё няма!!! Жах-жах-жах! Але яна паспявае прыйсці ў апошні момант, а ты ўжо стаіш амаль без памяці. Можна ўжо не ісці ў Парк Чалюскінцаў на экстрэмальны атракцыён «Супер 8», бо сваю порцыю вострых адчуванняў ты атрымаў. І наіўна думаць, што гэта было ў апошні раз. Апошняга разу няма: мама ўсё роўна нешта абавязкова забывае і ў апошнюю хвіліну пакідае мяне ў гэтай праклятай чарзе... І ўсё пачынаецца спачатку.

**Яўген Мартыновіч**

**«Сем рэчаў, якія я не буду рабіць, калі выраслу».**

Праўду кажучы, ён заўсёды хацеў быць вялікім цягніком. Каб імчаць праз ранішнюю шэрань, а не на чарговы круг па горадзе, які ён ведаў да апошняга павароту. Да новых гарадоў і краін. Вазіць нешта цяжкое і вантробна гусці. Выдыхаць струмені чорнага дыму, як пасажырскі дызель, бардовы з жоўтым. Ён бачыў такі колькі дзён таму, калі праязджаў каля чыгункі. <...> Але, калі для ўсіясных аўтамабіляў наступаў чырвоны колер святлафора, калі ніводная з гэтых дзіўных пачвар на гумавых колах не думала паварочваць перад ім, трамвай забываўся пра тое, хто ён. І імчаў, як сапраўдны цягнік. І бачыліся яму за паваротам новыя краіны і нязведаныя далі. Ну і што з таго, што гэта горад, ці не падобны ён час ад часу да джунгляў, лесу ці поля? А што ўвесь яго шлях — проста круг, і, што б там ні было, ён той жа дарогай вернецца назад. Гэта наканавана ўсім. І розным цягнікам на розных рэйках, нават людзям.

**Валерыя Саротнік**

**«Восем казак для дарослых. Казка першая, пра трамвай».**

## Элегія паспешнасці

*Спяшаюся. Усё наперакос.*
*Спяшаюся са старту, ад пачатку.*
*Бягу ў кантору, дзе паставіць лёс*
*У бланк жыцця апошнюю пячатку.*
*Сярод мітрэнгаў праміналюць дні,*
*Хоць нават непакоіцца не трэба.*
*Марную зноўку час у мітусні,*
*І пада мной амаль дыміцца глеба.*
*Але жыве пытанне, як жыло…*
*Кажу сабе: «Куды ж ты, небарача?»*
*Я кідаюся з цемры на святло.*
*Чаму? Бо я святла яшчэ не бачыў.*

**Аляксей Арцёмаў**

***

*Малым дзіцём*
*Я вырываўся*
*З тваіх рук,*
*Каб аб нечым даведацца,*
*І не разумеў,*
*Што ты вучыла мяне самаму галоўнаму,*
*Што самыя патаемныя веды*
*Пераліваліся амаль няўлоўна*
*Ў цеплыні тваёй далоні…*
*Так атрымліваецца,*
*Што дзеці вучацца прычыняць боль*
*На самых блізкіх,*
*І разумеюць гэта толькі,*
*Калі самі схіляюцца над калыскай…*
*Ты калісьці спявала мне калыханкі,*
*А я ніводнай не памятаю.*
*Мама,*
*Я ўзгадаю іх*
*Самым светлым ранкам*
*Пасля бяссоннай ночы*
*За кубкам гарбаты з мятай…*
*Гэтая гісторыя мае свой адвечны працяг,*
*І без розніцы, калі прачнуцца,*
*Як бы далёка*
*Ні завялі мяне дарогі жыцця,*
*Пакуль ты ёсць,*
*Мне заўсёды будзе куды вярнуцца…*

**Міхаіл Бараноўскі**

***

*Жыццё ідзе па лініях метро.*
*І ноч малюе блікі на шпалерах:*
*Натхненне — каляроваю паперай,*
*Каханне — чарадзейным ліхтаром.*
*Карункамі на шэрых камянях*
*Адпрэчыўшы аднолькавасць у лёсах,*
*Ты разумееш, гледзячы ў нябёсы,*
*Што на зямлі для кожнага — свой шлях.*
*А за сцяною летніх навальніц*
*Ужо чакаюць промні залатыя.*
*Святло іх атрымаюць толькі тыя,*
*Хто зазірне ў вытокі таямніц.*
*І — час натхняцца, час кахаць і верыць,*
*Што праз гады ў тваім календары*
*Мяняюцца адценні на шпалерах,*
*Як фарбы ў чарадзейным ліхтары.*

**Яна Явіч**

*Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ» і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі*

# Кніжны свет

**29 студзеня 2015 г.**

*Моладзь ідзе*

# Андрэй Дзічэнка: «Творчасць павінна быць таемнай»



*Фота Міхаіла Купрыча.*

Малады пісьменнік Андрэй Дзічэнка нарадзіўся ў расійскім Калінінградзе, цяпер стала жыве ў Беларусі. Пачынаў пісаць прозу па-руску, але сёння ў творчасці ўсё часцей схіляецца да беларускай мовы. Летась прадставіў сваю шматслойную кнігу «Пліты і правалы», выступаў з апавяданнямі ў калектыўных зборніках. А яшчэ стаў адным з пераможцаў конкурсу для маладых аўтараў «Мост Дружбы» Пастаяннага камітэта Саюзнай Дзяржавы Беларусі і Расіі. Ці чакаў такога поспеху? З гэтага пытання і пачалася гутарка з Андрэем.

— З літаратурай у мяне ўсё заўсёды спантанна і непрадказальна. Гэта як вялікае каханне, якое невядома якім рэхам адгукнецца. Часам гэтае каханне бывае неўзаемным, а ў іншы раз — пакутным. Калі я зразумеў, што атрымаў перамогу ў конкурсе, то адчуў выхад на нейкія новыя рубяжы. Што за імі, пакуль зразумець не магу. Дыплом паклаў у шафу, а не павесіў на сценку. Так раблю з усімі дыпломамі. Таму што галоўнае ў літаратуры — не скаціцца ў фетышызм. Тады любая творчасць перарасце ў самалюбаванне. А яно вельмі моцна абмяжоўвае! Любая творчасць павінна быць таемнай. І нельга яе хаваць за дыпломамі.

**— У цябе ўжо выйшла кніга на рускай мове, але наступная — зборнік апавяданняў, — анансаваная па-беларуску. Чаму так?**

— Гэта звязана з уласнай ініцыяцыяй. У нейкі момант жыцця я адчуў, што канчаткова пагрузіўся ў беларускі кантэкст і культуру. Зразумеў гэта, калі пачаў чытаць больш беларускай літаратуры і свабодна размаўляць па-беларуску. Раней на мове ў мяне атрымлівалася пісаць толькі вершы. Зараз пачаў пісаць кароткую прозу. Беларуская — мова паэзіі. Таму і зборнік гэтых кароткіх апавяданняў будзе падобны на адну вялікую паэму пра падарожжы па цёмных кутках нашага і іншых сусветаў.

**— Кніга «Пліты і правалы» атрымалася досыць заблытаная па сюжэце, героях. Ты спецыяльна блытаеш чытача, прымушаеш яго думаць, разматваць клубкі расповеду, разгадваць загадкі?**

— Гэты тэкст — як атакі віруса ў целе хворага. Калі я скончыў яго, адчуў лёгкасць, якая бывае пасля таго, як перахварэў на грып. Потым зразумеў адну важную рэч. Гэтую кнігу можна пачынаць чытаць з любой часткі. У тэксце ёсць пачатак, але няма адзінай завяршанасці. Калі пісаў, сам сабе задаваў нейкія пытанні. Але адказаў не было, пытанняў узнікала яшчэ больш. У выніку атрымаўся вялікі твор, напоўнены містэрыямі і анамаліямі. Сярод гэтых радкоў і літар можна знаходзіцца бясконца, але нельга знайсці выразных слоў, каб апісаць усе рухі і пачуцці. Нехта кажа, што гэта кніга пра чалавечыя адносіны. Але ж сярод герояў няма жывых людзей і ўвогуле істот, якія могуць пахваліцца такой узнагародай, як жыццё. Менавіта таму «Пліты і правалы» хутчэй пра метафізічны лабірынт. На падарожжа па ім мне спатрэбілася пяць гадоў. І ўсё роўна лічу яго няскончаным. Але вяртацца на тыя пазіцыі жадання няма. Напэўна, на гэтыя пакуты нейкі імунітэт выпрацаваўся! Кніга шмат у чым навеяная песнямі гурта «Театр Яда». На жаль, пасля смерці заснавальніка Яна Нікіціна яго больш не існуе.

**— Ці будзе другая кніга адрознівацца ад першай па настроі, мастацкіх прыёмах пабудовы сюжэту?**

— Адназначна будзе больш простай. Зараз я сканцэнтраваўся на кароткіх апавяданнях. Але тэма ўсё тая — падарожжы па трансгранічных прасторах. Я прыйшоў да высновы, што такія гісторыі прасцей распавесці ў кароткіх жанрах і фрагментамі. Занадта падрабязная канстатацыі моцна стамляюць.

**— Як ставішся да свайго чытача? Можаш намаляваць яго зборны партрэт?**

— Чытач альбо нічога не разумее, альбо пагружаецца ў прапанаваны тэкст, як пры праслухоўванні нойз-індастрыялу ці блэк-мэталу. Я заўважыў, што разумеюць такую прозу людзі якраз з гэтага асяродка. А ўсё таму, што яна сама нагадвае… брудны шум. Астатняе залежыць ад таго, які «дэшыфратар» у свядомасці тых, хто ўзяўся за даследаванне слоўных канструкцый.

**— Што табе падабаецца пісаць больш: вялікія тэксты ці кароткія апавяданні? Якім павінен быць ідэальны раман?**

— Бясконцым! Гэта тая кніга, пасля якой трэба шмат думаць і разважаць. У іншым выпадку — вяртацца да яе і шукаць нейкія зачэпкі для ўласнага расследавання. Лягчэй пісаць кароткія тэксты. Яны адбіраюць не так шмат сіл і ўвагі. У перапынках можна адпачыць. Вялікі тэкст моцна стамляе. Бывае і так, што адчуваеш моманты, калі няма больш жадання з ім змагацца, і ты пакідаеш яго ў стане «замарожанага будаўніцтва» да новага, больш шчаслівага перыяду. А яшчэ… Часта вялікія раманы становяцца часткай твайго жыцця і паразітуюць на табе.

**— Ты маеш адукацыю гісторыка, працуеш журналістам. Гэта неяк уплывае на літаратурную творчасць?**

— Вельмі моцна абмяжоўвае. Журналіст я, скажам шчыра, не вельмі добры. А ўсё таму, што журналістыка — з дакладных навук, з якімі ў мяне яшчэ са школы бяда. Вось літаратура — гэта свабоднае падзенне… Журналістыка — кіраванне бамбавіком у складаных атмасферных умовах. Таму я часта чую ад рэдактараў нараканні, што «пішу незразумела і складана».

Гісторыя — гэта, хутчэй, хобі, чым мая прыналежнасць да прафесіі. Тым не менш дзякуючы гістарычнаму факультэту я навучыўся думаць крытычна і спасылацца на працэсы гістарызму. Але гістарычная літаратура або журналісцкія нататкі мяне ніколі не цікавілі. Яны не пакідаюць пасля сябе ніякага лёсавызначальнага следу.

**— Каго з пісьменнікаў можаш назваць сваім настаўнікам у літаратуры? Што сам любіш чытаць?**

— З дзяцінства я вельмі любіў французскіх аўтараў і літаратуру. Луі-Фердынанд Сэлін, Жорж Батай, Луі Арагон… Акрамя таго, рос на прозе рускіх пісьменнікаў Юрыя Мамлеева і Ілы Масодава. Што да беларускіх, люблю творы Юрыя Станкевіча, Таццяны Заміроўскай і Сяргея Календы.. Напэўна, таму, што сам не стаў паэтам і ніколі не стану, вельмі люблю паэзію. З сучаснікаў — вершы Кірыла Мяцеліцы, Яраслава Магуціна і Сяргея Уханава. Калі казаць пра класіку, падабаюцца вершы Максіма Танка. Ці, хутчэй, сам Максім Танк як асоба.

**— У сучасным літаратурным кантэксце краіны побач з якімі імёнамі ты сябе бачыш?**

— Тыя, кім я захапляюся, нашмат вышэй, чым я. Але наогул хацелася б стварыць нейкую новую літаратурную фармацыю, смелую, незалежную, якая будзе ісці далёка наперадзе...

**— Як ставішся да крытычных водгукаў? Ці важнае для цябе меркаванне чытача і літаратурных крытыкаў?**

— Крытыка — гэта заўсёды добра. Меркаванні чытачоў — яшчэ лепш. Мне цікавы кожны чытач. Па простай прычыне: далёка не ўсе здольныя дачытаць мае тэксты да канца. Але ўвогуле водгукі самыя розныя і нечаканыя. Цікава, што я не сустракаў рэзкіх выказванняў. Усе меркаванні нейтральныя.

**— Кім будзе Андрэй Дзічэнка гадоў праз дзесяць?**

— Думаю, у маім жыцці мала што зменіцца — сам яго ўсур'ёз не ўспрымаю. Хочацца верыць, што калі-небудзь мы зможам адкрыць прынцыпова новае беларускае выдавецтва. Але яно будзе несці не беларускі кантэкст, а поўны мультыкультуралізм, заснаваны на беларускай пляцоўцы. У такім выпадку не мы будзем расцякацца па свеце, а свет будзе імкнуцца да нас.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Паэт на памежжы эпох

Творчасць Антона Гарэцкага, які актыўна пісаў у канцы XVIII — сярэдзіне XIX стагоддзя і стаў прадстаўніком пераходнага перыяду паміж эпохамі Асветніцтва і Рамантызму, дагэтуль не вывучалася ў беларускім літаратуразнаўстве. Той складаны час, калі цягам стагоддзя давялося перажыць Айчынную вайну 1812 года, два вялікія вызваленчыя паўстанні, спарадзіў не толькі шмат пакут, змусіў да пошукаў уласнай ідэнтычнасці, але і садзейнічаў творчаму развіццю мноства талентаў.

Манаграфія маладой даследчыцы Ганны Шаўчэнка «Паэзія Антона Гарэцкага і станаўленне рамантычнай традыцыі ў літаратуры Беларусі XIX стагоддзя», што пабачыла свет у выдавецтве «Кнігазбор», з'яўляецца першай у айчыннай навуцы спробай даць ацэнку творчасці Антона Гарэцкага праз параўнанне яго паэтычных твораў з набыткамі іншых прадстаўнікоў гэтага ж пакалення аўтараў. Антон Гарэцкі (1787 — 1861), які часта выступаў у друку пад псеўданімам Літвін, увайшоў у літаратуру пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, аднак да канца жыцця называў сябе грамадзянінам гэтай дзяржавы. Шмат часу пражыў у эміграцыі, у так званай «польскай дыяспары», пісаў па-польску, але называў сябе то палякам, то ліцвінам, а то і адмыслова супрацьпастаўляў шляхі развіцця польскага і беларуска-літвінскага народаў. Адметна, што яго першы зборнік вершаў, які выйшаў у Парыжы ў 1834 годзе, атрымаў назву «Паэзія Літвіна».

Для напісання гэтай работы Ганна Шаўчэнка правяла вялікую даследчую працу ў архівах, найперш тых, што знаходзяцца за мяжой. Там было выяўлена дзевяць паэтычных зборнікаў Гарэцкага, а таксама мноства публікацый у тагачаснай перыёдыцы. Даследчыца піша, што «паэзія Антона Гарэцкага мела ўнікальныя для свайго часу асаблівасці, у адных выклікала захапленне, імкненне да наследавання і пераймання, у іншых — раздражненне і неразуменне». Напэўна, з гэтай прычыны яго творам не надавалі належнай увагі, не разглядалі асобу і спадчыну комплексна, з улікам тых складаных умоў, у якіх працаваў Гарэцкі.

Сапраўды, творчасць Антона Гарэцкага ніколі не ўспрымалася адназначна. Сатырычнымі байкамі і «вайсковымі» вершамі захапляліся простыя салдаты, якія, як і паэт, былі ўдзельнікамі і напалеонаўскай вайны, і паўстання 1830-1831 гадоў, але крытыкі часам востра негатыўна рэагавалі на з'яўленне ў друку яго новых твораў. Ганна Шаўчэнка мяркуе, што гэтаму можна знайсці прынамсі два тлумачэнні. Па-першае, сам Гарэцкі не меў высокіх амбіцый, не імкнуўся ўзняцца на Парнас. Па-другое, у сваёй творчасці кіраваўся не ўзорамі вершаскладання, а ўласнай літаратурнай інтуіцыяй і выключным жыццёвым досведам. Магчыма, таму ён трапна адгадаў дух часу, даўшы чытачам такія неабходныя творы, а крытыкам — глебу для бясконцых спрэчак.

У сваім водгуку на манаграфію Ганны Шаўчэнка кандыдат філалагічных навук Ірына Багдановіч неаднаразова падкрэслівае наватарскі характар працы маладой даследчыцы. Справа ў тым, што раней імя Антона Гарэцкага згадвалася толькі некалькімі словамі ў звязку з творчасцю больш знакамітых сучаснікаў, папярэднікаў ці наступнікаў, да прыкладу, Адама Міцкевіча, Уладзіслава Сыракомлі, Юльяна Нямцэвіча. Мы мелі магчымасць пазнаёміцца з перакладамі некаторых вершаў Гарэцкага (у перастварэнні зноў жа Ганны Шаўчэнка) на старонках анталогій і хрэстаматый па літаратуры Беларусі першай паловы XIX стагоддзя. Сёння ж да беларускага чытача прыйшло паўнавартаснае, комплекснае даследаванне, дзе даецца характарыстыка творчай спадчыны Гарэцкага, вызначаецца яе месца ў мультыкультурным жыцці беларускіх земляў мяжы XVIII і XIX стагоддзяў. Гэтая работа служыць і больш глабальнай мэце: даваляе лепш зразумець адметнасці беларускага Перадрамантызму.




Заўважу яшчэ адну акалічнасць: славуты беларускі мастак Валенцій Ваньковіч быў родным пляменнікам Антона Гарэцкага па лініі маці. Пэндзлю Ваньковіча належыць выдатны партрэт дзядзькі, які можна пабачыць на вокладцы кнігі Ганны Шаўчэнка.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Унікальны праект*

# «Вядзём, вядзём карагод…»

**Фотаздымкі Анатоля Клешчука, зробленыя падчас многіх паездак па розных рэгіёнах краіны, друкаваліся ў газетах і часопісах, прадстаўляліся на шматлікіх выстаўках у штаб-кватэры ААН у Нью-Ёрку, у будынку Еўрапарламента ў Брусэлі, у Палацы Лігі Нацый у Жэневе, у нямецкім Бундэстагу, Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Але цяпер, сабраныя пад вокладкай альбома, работы фотамайстра нібыта заззялі новымі фарбамі. Праект «Карагод беларускіх абрадаў», рэалізаваны напрыканцы мінулага года выдавецтвам «Беларусь», стаў сапраўды ўнікальным і знакавым для нашай краіны.**




Беларусь часам называюць запаведнікам традыцыйнай культуры. Маўляў, ніякай іншай еўрапейскай краіне не захавалася такога багацця народных песень, абрадаў, свят, рамёстваў. Толькі ў нас, у глыбіні Палесся, на Паазер'і, Падняпроўі, Панямонні, ды нават непадалёк ад сталіцы можна не толькі трапіць на рэканструкцыю старажытнага рытуалу, паўдзельнічаць у народным свяце, але і пабачыць саму традыцыю ў яе натуральных умовах бытавання. Гэта захапляе, зачароўвае, выклікае жаданне зафіксаваць, занатаваць, захаваць для наступных пакаленняў.

Таму нядзіўна, што многія навукоўцы, мастакі, журналісты, фотамайстры прысвячаюць сваё жыццё і працу вывучэнню традыцыйнай культуры нашага народа. Анатоль Кляшчук — адзін з іх. Ужо амаль тры дзесяцігоддзі Анатоль Віктаравіч, сёння супрацоўнік газеты «Звязда», ладзіць камандзіроўкі па рэгіёнах краіны, фіксуе старажытныя абрады ў натуральных умовах іх бытавання. Перад намі — не проста рэканструкцыі, не пастановачныя здымкі на камеру, не стылізаваныя сцэнічныя касцюмы. Гэта — сапраўдныя жыхары беларускіх вёсак, іх шчырыя ўсмешкі і ззянне вачэй, шматвекавая праца па захаванні ведаў, перададзеных продкамі. Гэта сапраўдная Беларусь.

Думаецца, аматары народных свят і абрадаў на фотаздымках Анатоля Клешчука пабачаць мноства знаёмых твараў. Вось, да прыкладу, ужо знакамітыя жанчыны з вёскі Стаўбун Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці ладзяць старажытны абрад «Ваджэнне і пахаванне Стралы»: ідуць вялікім шэсцем па цэнтральнай вуліцы, закопваюць «стралу» ў полі, качаюцца ў маладым жыце (каб быў добры ўраджай), збіраюць невялікія букецікі маладых каласкоў, якія будуць цэлы год засцерагаць дом… А вось — студэнты кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ ладзяць свята сонца і агню Купалле ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту. У іх выкананні — не проста стылізацыя, але сапраўдная рэканструкцыя, выкананая пад кіраўніцтвам вядомых этнографаў і, натуральна, носьбітаў…

Знаёмячыся з кнігай «Карагод беларускіх абрадаў», чытач зверне ўвагу на тое, што тэксту ў выданні вельмі мала — толькі мінімум, неабходны для сціслага апісання традыцыйнага свята, і кароткі аповед пра яго адметнасці. Асноўная ўвага — на фотаздымкі, на вобразы бабуль і дзядуль — носьбітаў, а таксама моладзь — іх пераемнікаў. Адметна таксама, што альбом прадстаўлены ў фармаце білінгва — на беларускай і англійскай мовах. Таму выданне можа быць карысным не толькі нашым суайчыннікам, але і жыхарам розных краін свету.

У якасці назвы альбома аўтар невыпадкова выбраў сімвал карагода. Як і поры года, беларускія абрады цыклічныя, яны непарыўна звязаныя з календаром, земляробчым цыклам. Гартаючы кнігу, разглядаючы фотаздымкі, мы разам з удзельнікамі свят перажываем цэлы год: Каляды, Масленіца, Вялікдзень, Юр'я, «Страла», Русалле, Купалле, Зажынкі-дажынкі, Багач, Дзяды… Прырода засынае, адраджаецца, квітнее і паступова памірае, каб зноў адрадзіцца. Цікава, што Анатоль Кляшчук не проста падае ўніфікаваны прыклад правядзення традыцыйнага свята, але паказвае на сваіх фотаздымках іх рэгіянальныя адметнасці. Так, да прыкладу, калядаванне, распаўсюджанае ў многіх мясцінах Беларусі, для Паазер'я не зусім характэрнае. Тут ёсць свая калядная гульня — «Жаніцьба Цярэшкі». А на ўсходнім памежжы Міншчыны і Магілёўшчыны захаваўся цікавы абрад — «Цягнуць Каляду на дуба».

У гэтым грунтоўным альбоме, аб'ёмам амаль чатыры сотні старонак, натуральна, сабраныя не ўсе здабыткі фотамастака Анатоля Клешчука. Таму застаецца спадзявацца, што «Карагод беларускіх абрадаў» будзе доўжыць свой шлях і ў новых выданнях, пашыраючы кола ўдзельнікаў, прыхільнікаў, даследчыкаў і чытачоў.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Прэзентацыя*

# Культура: бізнес-аспект

**У Выдавецкім цэнтры БДУ пабачыў свет вучэбны дапаможнік Таццяны Арловай і Алены Мальчэўскай «Культура і менеджмент». Выданне адрасаванае найперш студэнтам, якія рыхтуюцца стаць журналістамі, спецыялістамі па інфармацыі і камунікацыі, а таксама літаратурнымі рэдактарамі. Але, думаецца, кніга патэнцыяльна цікавая намнога больш шырокаму колу чытачоў.**




Сёння, калі айчынная культура перажывае перыяд актыўнага развіцця і пашырэння ўплыву, журналісту, менеджару, спецыялісту па піяры вельмі важна арыентавацца ў бясконцым моры імёнаў, плыняў, жанраў. Важна разумець, дзе і як шукаць сродкі на арганізацыю выстаўкі, выданне кнігі, прамоцыю арт-праекта. Кніга вядомага тэатральнага крытыка Таццяны Арловай і маладой даследчыцы, журналісткі Алены Мальчэўскай прадстаўляе менавіта той «шкілет» асноўных ведаў, які потым можа развівацца, дапаўняцца новымі звесткамі і практычным вопытам.

Так, аўтары выдання засяроджваюць увагу на развіцці і сучасным стане бібліятэчнай справы краіны, праблемах, што існуюць у музейнай сферы і турыстычным бізнесе, адметнасцях функцыянавання беларускай сістэмы кнігавыдання, айчыннага тэатра, галерэйнай справы, кінаіндустрыі і шоу-бізнесу. Але расповедам толькі пра беларускія рэаліі даследаванне не абмяжоўваецца: тут прыводзяцца прыклады паспяховых замежных арт-праектаў, распавядаецца пра прынцыпы фінансавання культурнай галіны ў розных краінах, стан развіцця тэатра і адметнасці функцыянавання шоу-бізнесу.

Вельмі важна, што тэкст дапаможніка змяшчае вытрымкі з публікацый у айчыннай і замежнай прэсе (дарэчы, ёсць тут і спасылкі на «ЛіМ», у тым ліку праект «Кніжны свет»), а ў якасці дадаткаў да кнігі змешчаныя найбольш удалыя журналісцкія матэрыялы, прысвечаныя пэўным аспектам існавання і развіцця галіны культуры. Гэта пацвярджае актуальнасць выдання, яго своечасовасць, паказвае сучасны кантэкст і яшчэ раз даказвае, што культура не можа існаваць ізаляванай ад іншых сфер грамадства, да прыкладу, бізнесу, інфармацыйных тэхналогій, інтэрнэт-камунікацыі.

Кніга «Культура і менеджмент» змяшчае слоўнік асноўных тэрмінаў і паняццяў, якія дапаможа, да прыкладу, адрозніць крэдыт ад лізінгу, датацыю ад гранта і інвестыцый, патлумачыць простымі словамі сутнасць многіх складаных з'яў у галіне культуры. Выданне мае практычную скіраванасць і будзе карысным, калі вы не ведаеце, як арганізаваць выстаўку, скласці пісьмовы зварот да патэнцыяльных спонсараў, палічыць эфектыўнасць скіравання фінансавага праекта, а таксама падкажа шлях вырашэння многіх значных пытанняў.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Жыццяпіс творчай сям'і

Музыказнаўца, доктар філасофскіх навук, прафесар Арыядна Ладыгіна, родная пляменніца легенды беларускай оперы, народнай артысткі СССР Ларысы Александроўскай, ужо знаёмая айчыннаму чытачу як аўтар дакументальна-тэатральнага рамана «Лариса Помпеевна Александровская». А нядаўна Арыядна Барысаўна зноў парадавала аматараў літаратуры. «Жизнь сквозь призму воспоминаний. Люди. События. Встречи» — так называецца кніга, якую аўтарка днямі прэзентавала ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь.

Кніга, што пабачыла свет у айчынным выдавецтве «Чатыры чвэрці», напісаная ў жанры мемуарнай публіцыстыкі. Гэта своеасаблівы жыццяпіс творчай сям'і ў кантэксце тагачасных рэалій, прадстаўлены праз тонкія грані лёсу Арыядны Барысаўны, якая цяпер жыве ў Маскве. Аўтарка прызналася: гэтая праца — вынік шматгадовага творчага шляху, на якім жыццё падарыла ёй мноства цікавых сустрэч і знаёмстваў. Арыядна Барысаўна вучылася ажно ў трох кансерваторыях: спачатку — у Мінску, пасля — у Саратаве, а ўрэшце скончыла маскоўскую (па класе скрыпкі).

— У 1951 годзе я паступіла ў аспірантуру Маскоўскай кансерваторыі па спецыяльнасці «Эстэтыка», — распавяла Арыядна Ладыгіна. — Тады гэтая навука яшчэ не была распрацаваная: звярталіся да старых крыніц, нават да антычных вытокаў. І ў кансерваторыі адкрылі кафедру філасофіі, дзе я была ў ліку самых першых аспірантаў! Так я ператварылася з музыканта ў тэарэтыка-філасофа, а пасля абароны кандыдацкай была запрошаная на працу ў Казань, хоць імкнулася ў родны Мінск, куды і пераехала ў 1955-м. Тут працавала ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР, дырэктарам якога быў Пятро Глебка. Але цягнула не столькі да навуковай працы, колькі да педагагічнай. Вось і перайшла на працу ў кансерваторыю, дзе засталася больш на сорак гадоў…

Арыядна Ладыгіна выгадавала не адно пакаленне таленавітых навукоўцаў. Сярод іх — дацэнт кафедры сацыяльна-гуманітарных дысцыплін Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Галіна Дрэгавец і доктар мастацтвазнаўства, прафесар, загадчык кафедры беларускай музыкі БДАМ Вольга Дадзіёмава.

— Асветленыя ў кнізе падзеі беларускай культуры перададзеныя палымяным сэрцам, чулай душою, залатым пяром Арыядны Барысаўны, — упэўнена Вольга Дадзіёмава. — Створаныя ёю кнігі адкрываюць панараму быцця беларускага культурнага свету.

**Яна ЯВІЧ**

# Тэкстолаг — яшчэ і дэтэктыў?

**Першая кніга Міхася Мушынскага «Ад задумы да здзяйснення: Творчая гісторыя “Новай зямлі” і “Сымона-музыкі”» пабачыла свет у 1965 годзе. Творчая гісторыя асобных паэм даследавалася ў беларускім літаратуразнаўстве ўпершыню, што, паводле прадмовы, тлумачылася «маладосцю літаратурнай навукі і такіх яе дысцыплін, як тэксталогія, архівазнаўства, бібліяграфія». За паўстагоддзя, што мінулі пасля выдання кнігі, у беларускім літаратуразнаўстве з’явілася шмат выдатных даследаванняў, а Міхась Мушынскі стаў кіраўніком і ўдзельнікам падрыхтоўкі шматтомных навукова каментаваных выданняў найбуйнейшых беларускіх пісьменнікаў. Сёлета Міхасю Мушынскаму спаўняецца 85 гадоў. Мінула 60 гадоў з таго часу, як будучы літаратуразнаўца звязаў жыццё з Нацыянальнай акадэміяй навук!**

Ён падкрэсліваў прывабнасць прафесіі тэкстолага, якую паводле займальнасці можна параўнаць з працай дэтэктыва, звяртаўся ў шматлікіх публікацыях да актуальных пытанняў беларускай тэксталогіі. «Давайце шукаць выхад са становішча разам» — з гэтай установкай Міхась Мушынскі браўся за навуковыя артыкулы і манаграфіі, прысвечаныя развіццю айчыннага літаратуразнаўства, крытыкі і мастацкай творчасці.

Працы шаноўнага даследчыка вяртаюць у розныя перыяды грамадска-палітычнага жыцця. Доўгі час у даследаваннях згадваюцца «заваёвы Кастрычніка», цытуюцца рашэнні з’ездаў КПСС — і разам з тым называюцца забароненыя раней імёны, агучваецца «затоены сум майстроў слова, крытыкаў па нармальных умовах працы, па шчырых, сяброўскіх узаемаадносінах, пазбаўленых падазронасці, недарэчных абвінавачванняў, вульгарызатарскіх наскокаў». У этапным даследаванні «Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. 20 — 30-я гады» (1975) Міхась Мушынскі апісвае барацьбу творчых груповак, супастаўляе творчыя платформы розных літаратурных арганізацый, аглядае дзейнасць літаратуразнаўцаў.

«Чаму раптам кампазіцыя, гэта знаходка, сродак арганізацыі, афармлення матэрыялу, стала ўніверсальнай катэгорыяй, з дапамогай якой намерваюцца зрабіць пераварот у навуцы, у выяўленчым мастацтве?» — здзіўляецца даследчык, аналізуючы тэарэтычныя роздумы Аляксандра Вазнясенскага. Тым часам у еўрапейскай навуцы актыўна развіваецца нараталогія...

*Міхась Мушынскі неаднойчы падкрэсліваў прывабнасць прафесіі тэкстолага, якую паводле займальнасці можна параўнаць з працай дэтэктыва, звяртаўся ў публікацыях да актуальных пытанняў беларускай тэксталогіі. «Давайце шукаць выхад са становішча разам, сумеснымі намаганнямі», — з гэтай установкай даследчык браўся за навуковыя артыкулы і манаграфіі.*



Фота Ігара Кузняцова.

Міхась Мушынскі.

«Сёння часопісы чытае надзвычай вялікая колькасць людзей. На часопісы ў бібліятэках чарга (…) Дасведчанасць у літаратурных навінках стала справай прэстыжу не толькі сярод моладзі, але і чытачоў самых розных катэгорый», — гэта аптымістычная цытата з больш блізкага да нас выдання «Каардынаты пошуку: Беларуская крытыка: набыткі, перспектывы» (1988).

«І нічога, апроч праўды: Якой быць “Гісторыі беларускай літаратуры”» (1990) — палымяныя старонкі гэтай кнігі нагадваюць пра час крытычнага стаўлення да здабыткаў савецкай эпохі і свабодных роздумаў над важнымі культурнымі праблемамі. Недахопы беларускай крытыкі і літаратуразнаўства, выпучаныя Міхасём Восіпавічам, не марна будзе ўзгадаць і зараз. Гэта «абыякавасць да “другарадных” пісьменнікаў — у якой выявілася адсутнасць сапраўднага, непаказнога дэмакратызму»; спрыянне жывым «класікам» у друку і ў выдавецтвах; «перабольшванне ролі твораў, напісаных вядомымі майстрамі слова»; ігнараванне недасканалых і супярэчлівых твораў пры вылучэнні асноўных літаратурных тэндэнцый. Палеміку з даследчыкамі Міхась Мушынскі працягвае ў манаграфіі «Нескароны талент: Праўдзівая гісторыя жыцця і творчасці Міхася Зарэцкага» (1991, 2005), дзе звяртае ўвагу на частотныя недахопы літаратуразнаўчых даследаванняў.

Поспехі калег таксама знаходзяцца ў полі зроку навукоўца, пра што сведчаць добразычлівыя рэцэнзіі на новыя выданні. У пятым выпуску матэрыялаў Узвышаўскіх чытанняў «Пра час “Узвышша”» доктар філалагічных навук усцешана зазначае, што ў падыходах аўтараў зборніка «шмат агульнага з выходнымі прынцыпамі самога «Узвышша», з яго ўстаноўкай браць творча-мастацкія вышыні (…) высокім узроўнем майстэрства, узроўнем даследчай культуры». Грунтоўныя хронікі Міхася Мушынскага, прысвечаныя жыццю і творчасці Якуба Коласа і Максіма Гарэцкага, — выдатныя памагатыя для ўсіх, хто прафесійна цікавіцца азначанымі аўтарамі.

У навуковых працах Міхась Восіпавіч заўсёды суперажывае творцу, чытачу, герою і наогул беларускай літаратуры. Апошнім часам на літаратурных мерапрыемствах даследчык усё часцей акцэнтуе неабходнасць папулярызацыі творчасці класікаў, набыткаў айчыннай гуманітарнай навукі. Гэта мэта — адна з галоўных для ўсіх, хто займаецца сёння беларускай літаратурай. Удзячнасць і павага да значных асоб айчыннай культуры — пачуцці, якія маюць натхняць на новыя ідэі і плённую працу.

**Юлія ШПАКОВА**

# Чытанні перад сном

## Тысяча наведвальнікаў і адна «Ноч бібліятэк»

**Арганізатары фестывалю мабільнага кіно *velcom Smartfilm* правялі ў Мінску «Ноч бібліятэк» — унікальнае мерапрыемства, якое аб’ядноўвае кіно, літаратуру і мову. Тэлевядучыя, журналісты, артысты, спартсмены, пісьменнікі, рэстаратары, шоумены і грамадскія дзеячы чыталі ўголас урыўкі са сваіх любімых твораў у Навуковай бібліятэцы БНТУ і Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна. Падзея выклікала небывалую цікавасць у жыхароў горада: за вечар бібліятэкі наведалі каля паўтары тысячы чалавек!**

— Задумаўшы праект, мы хацелі паказаць людзям, што бібліятэка не выйшла з моды, тут можна весела і цікава бавіць час, навучыцца новаму, — распавяла начальнік упраўлення маркетынгу *velcom* Юлія Дайнэка. — «Ноч бібліятэк» — працяг праекта фестывалю мабільнага кіно *velcom Smartfilm*, які кампанія праводзіць ужо не першы год. Сёлета ён прысвечаны літаратуры. Мы папрасілі стварыць нашых удзельнікаў буктрэйлеры — ролікі пра любімую кнігу. Выбралі сем фіналістаў. Аднак у жадаючых паспрабаваць сябе ў конкурсе яшчэ ёсць час — работы прымаюцца да 31 студзеня.

Удзельнікі «Ночы бібліятэк» пераканаліся: кніжніца — гэта не толькі месца для чытання і самаадукацыі, але і для новых знаёмстваў, адкрыццяў, сустрэч.

Што да літаратурнай вечарыны, то яе госці пачулі ўрыўкі з твораў Уладзіміра Караткевіча, Максіма Танка, Івана Мележа, Святланы Алексіевіч і многіх іншых айчынных пісьменнікаў. Тэлевядучая Ганна Бонд прачытала некалькі вершаў Максіма Багдановіча. Аднак прызналася, што ў апошні раз звярталася да беларускай літаратуры толькі ў школе. Паэт Віктар Жыбуль ладна павесяліў публіку гумарыстычнымі вершамі ўласнага сачынення.

Да чытанняў далучыліся таксама і беларусы, якія гэтым разам праз абставіны знаходзіліся па-за межамі краіны. Пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка даслаў відэазварот з Парыжа, у якім чытаў «Бацькаўшчыну» Уладзіміра Караткевіча. Спартсменка Аліна Талай цытавала «Родную мову» Максіма Танка з Вены, а пісьменнік Уладзімір Казлоў зачытваў з расійскай сталіцы ўрывак са свайго новага твора «Вяртанне».

Усе, хто зазірнуў у той вечар на мерапрыемства, змаглі ўбачыць беларускіх знакамітасцей, паўдзельнічаць у буккросінгу (праўда, ляжалі там у асноўным савецкія выданні класікі і малавядомых аўтараў свайго часу), розных майстар-класах, ці проста папіць гарбаты з сябрамі! Жадаючыя наведалі ўрок шведскай і партугальскай мовы, майстар-клас па каліграфіі ад спецыялістаў Інстытута Канфуцыя па навуцы і тэхніцы БНТУ, паспрабавалі свае сілы ў напісанні крэатыўных тэкстаў, здымалі кіно на смартфон. У зале настольных гульняў працавалі 10 сталоў з беларускімі «настолкамі» ад супольнасці *Shukaj.by* і клуба БНТУ «451».

**Дар’я ЛАТЫШАВА**

**Спіс рэкамендаванай літаратуры ад удзельнікаў «Ночы бібліятэк»:**

**Аляксандр Куль:** Ян Баршчэўскі «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях».

**Вера Бурлак:** вершы Янкі Юхнаўца.

**Юрый Зісер:** Святлана Алексіевіч «Час сэканд-хэнд».

**Віктар Жыбуль:** Сяргей Пясецкі «Багам ночы роўныя».

**Яся Каралевіч-Картэль:** Майсей Кульбак «Зельманцы».

**Віталь Рыжкоў:** вершы Андрэя Адамовіча.

**Ганна Бонд:** вершы Максіма Багдановіча.

**Вадзім Пракоп:** Уладзімір Караткевіч «Чорны замак Альшанскі».

**Тамара Лісіцкая:** Уладзімір Караткевіч «Дзікае паляванне караля Стаха».

**Света Бень:** Саламея Пільштынова «Авантуры майго жыцця».

**Максім Жбанкоў:** эсэ Ігара Бабкова «Цывілізацыя заходняга будызму».

**Герман Цітоў:** вершы школьнай праграмы.

**Марына Арзамасава:** Кірыл Дубоўскі «Верныя сабутэльнікі».

**Павел Ганчар:** Франц Сіўко «Удог».

**Ілья Чарапко-Самахвалаў:** Янка Маўр «Слёзы Тубі».

**Андрэй Хадановіч:** Максім Танк, пераклады Галчыньскі.

**Сяргей Мета:** Іван Мележ «Людзі на балоце».

**Саша Раманава:** Сяргей Календа «Усё ўлічана».

**Дзмітрый Забалотны:** Масей Сяднёў «Патушаныя зоры».

**Павел Харланчук:** Андрэй Мрый «Запіскі Самсона Самасуя».

**Аляксей Садавой:** Антон Кашлікаў «Былыя».

# Ці магла «Новая зямля» мець іншае завяршэнне?

**Прыезд Якуба Коласа на Беларусь у 1921 годзе не прынёс чаканай радасці. Па-першае, родны кут заставаўся па заходні бок мяжы, якая падзяліла Беларусь. Па-другое, за часы ваеннага «блукання» і пражывання на Куршчыне — «рыжабародым краі» (такі вобраз ужыты ў вершы «Я кожан год свой дзень радзінаў…», 1918) — Якуб Колас узмацнеў як патрыёт і грамадзянін Беларусі, стаў яе непахісным дзяржаўнікам, а іншы раз выглядаў нават нацыяналістам (у крайнім значэнні гэтага паняцця).**

## СЫНОЎНІЯ ПЕРАЖЫВАННІ

Яшчэ ў савецкія часы літаратуразнаўцы заўважылі, што ў Якуба Коласа ў паслякастрычніцкі час «значна пашырылася і набыло больш разнастайны характар уяўленне пра Радзіму», хоць гэтаму пашырэнню і была нададзена інтэрпрэтацыя, адпаведная патрабаванням тагачаснай метадалогіі.

Сучасныя аналітычныя і інфармацыйныя магчымасці дазваляюць убачыць, што насамрэч арганізаваная бальшавікамі дзяржаўнасць Беларусі на савецкай аснове не апраўдала надзей паэта. Таму яго настальгія развілася ў смутак па нездзейсненай мары, узведзены ў квадрат адлегласцевай блізкасцю і разам з тым такой палітычнай далёкасцю ад апетага роднага кута: быццам бы рукою падаць, але наведаць малую радзіму, якая знаходзілася ў складзе Польшчы, не было аніякай магчымасці. Абвастрыліся і сыноўнія перажыванні (на Стаўпеччыне засталася маці, якой паэту ўжо не наканавана было пабачыць).

Між тым знакаміты коласазнавец Міхась Мушынскі звяртаецца да меркавання слыннага пісьменніка і даследчыка літаратуры першай паловы XX ст. Максіма Гарэцкага, які быў упэўнены ў тым, што Колас знаходзіцца напярэдадні стварэння выдатных твораў (у прыватнасці эпічнага). «Пясьняр падыйшоў цяпер к вышэйшаму пункту свае творчасьці», — пісаў М. Гарэцкі ў «Гісторыі беларускай літаратуры» (1921).

Мінулае не мае ўмоўнага ладу. Немагчыма сказаць, як добра пісаў бы Якуб Колас пры жыццёва камфортных умовах — лепш ці горш. Пэўна адно: 13 неспакойных гадоў (1908 — 1921) так удобрылі глебу для ўзгадавання літаратурнага таленту, што ён сапраўды ў пачатку 1920-х гг. выйшаў на пік майстэрства і натхнення.

*» Насамрэч аўтар тужыць усё па той жа новай зямлі, якой так і не стала Бацькаўшчына ў дзяржаўным сэнсе. Дапоўню меркаванне сугучнымі словамі прафесара М. Мушынскага: «Пад пяром мастака-гуманіста вобраз уласнай хаты выводзіцца на ўзровень шырокага абагульнення, на ўзровень паэтычнага сімвала Бацькаўшчыны...»*

Усё гэта, адпаведна, і вылілася ў цэлыя раздзелы паэмы «Новая зямля» — узору прыгожага пісьменства. Пры іншых абставінах (без зняволення, вайсковых бадзянняў, *доўгай дарогі дадому* і душэўнага драматызму на вяртанні на раздзертую радзіму) твора або не было б зусім, або быў бы ён кардынальна іншым. Прафесар Міхась Мушынскі кажа, што «Колас на пачатку 20-х гг. узыходзіў на якасна новы светапоглядна-творчы ўзровень дзейнасці». Але гэта не значыць, што творца кардынальна змяніўся. «Звычайна гэты зварот («Якуба Коласа на радзіму з Куршчыны ў маі 1921 года» — устаўка ўдакладняльнай цытаты М. Мушынскага наша. — **А. Т.**) ацэньваўся як пераломны момант у светаадчуванні паэта. Але такі вывад быў заўчасны… <…> Пералом у ягоным светапоглядзе адбыўся не адразу», — некалі справядліва адзначыў М. Мушынскі.




*Выданні «Новай зямлі» пад рознымі назвамі з асабістай бібліятэкі Якуба Коласа.*

## МАЛЮНКІ РОДНЫЯ

У перыяд 1921 — 1923 гг. былі створаны 17 (з усіх 30) раздзелаў «энцыклапедыі беларускага сялянства». Па назіраннях Антона Адамовіча, у гэтых раздзелах, напісаных ужо ў Савецкай Беларусі, выпады супраць сучаснасці асабліва вострыя (трэба разумець, у параўнанні з ранейшымі, нават астрожнымі, раздзеламі). Паэт, які адчувае сваё перабыванне пад Саветамі, як пад «варожай пятою» (выраз з апошняга раздзела «Новай зямлі», які датуецца 1922 — пачаткам 1923 гг.), дэкларуе, што «нявіднымі ніцямі» «моцна-моцна звязан» з «малюнкамі роднае краіны», хоць і зараслі «пуцявіны / У гэты мілы мой куточак»:

*І зараслі не палынамі,*
*Не крапівой, не драсянамі,*
*Не чаратом, не лебядою —*
*А беларускаю бядою.*
*Ды покі будзе сэрца біцца,*
*Яно не зможа пагадзіцца*
*Ні з гэтым гвалтам,*
*ні з бядою*
*Над нашай роднаю зямлёю…*

Паэт праклінае «вусны, рукі», якія на «мілы край адвечнай мукі» «ланцуг кавалі / І ў твар зняважліва плявалі!» (у чым бачыцца пераклічка з кавалямі верша «Родныя малюнкі»), разам з тым выражаючы надзею,

*Што хоць не мы, дык*
*нашы дзеці*
*Убачаць цэльным цябе*
*ў свеце!*

У гэтых словах бачыцца і страчванне надзеі — на тое, што сам аўтар некалі ўбачыць «цэльным» родны край, вольным ад згаданых чужаніцаў-кавалёў. Аднак, як відаць, ступень рэзкасці ў раздзелах, створаных Якубам Коласам апошнімі, ніжэйшая. Верагодна, тут сказаўся і той фактар, што пасля лета 1922 г. у СССР друкаванае слова становіцца падцэнзурным.

Галоўнае, пра што сведчаць многія радкі «Новай зямлі», напісаныя ў Савецкай Беларусі, — аўтар не пазбавіўся настальгіі, і гэта па-ранейшаму клалася адбіткам на творчасць:

*Малюнкі родныя і з'явы!*
*Як вы мне любы, як цікавы!*
*Як часта мілай чарадою*
*Вы ўстаеце перада мною!*

Увогуле паэтыка цытуемага XVI раздзела «Вечарамі» вельмі нагадвае — і фармальнымі сродкамі (вобразамі, параўнаннямі, сінтаксічнымі канструкцыямі, разважаннямі — ажно да слоўных супадзенняў), і псіхалагізмам, настраёвасцю, метафізічнасцю — многія радкі I раздзела «Леснікова пасада».

## АЎТАРСКАЕ «Я»

Унісонная пераклічка бачыцца невыпадковай. Аўтар і свядомарацыянальна, і душэўна падштурхоўвае атаясаміць становішча свайго лірычнага героя ў XVI раздзеле «Вечарамі» (напісаным, нагадаем, у Савецкай Беларусі) з хранатопам турэмнага зняволення, падчас якога быў створаны I раздзел «Леснікова пасада», сінанімізаваць пачуцці часавых адрэзкаў жыцця і месцазнаходжання, вынікам якіх сталі абедзве структурныя адзінкі мастацкага шэдэўра. У гэтым сэнсе паказальным з'яўляецца прыслоўе «зноў», дастасаванае да згаданага выразу пра часы савецкай улады як «варожай пяты», бо яно азначае паўтарэнне — таго моманту, калі «Новая зямля»

*На свет радзілася бурлівы*
*Яшчэ далёкаю вясною*
*За мураванаю сцяною*
*Ў няволі жудаснай астрога.*

Такім чынам, у Савецкай Беларусі аўтар пачуваўся, не раўнуючы, як у турме. А з улікам таго, што аўтарскае «я» вельмі рэдка ўкрапляецца ў тканіну твора, урыўкам прамаўлення ад першай асобы (тут яно праяўляецца на ўзроўні тэндэнцыі) варта надаваць прыярытэтнае значэнне ў літаратуразнаўчай і крытычнай, публіцыстычнай і нават палітычнай герменеўтыцы «Новай зямлі».

У літаральным сэнсе такую настальгію можна прачытаць як сум па родным куце маленства, які апынуўся за мяжой. Але такі погляд быў бы спрошчаны. Насамрэч аўтар тужыць усё па той жа новай зямлі, якой так і не стала Бацькаўшчына ў дзяржаўным сэнсе. Дапоўню меркаванне сугучнымі словамі прафесара М. Мушынскага: «Пад пяром мастака-гуманіста вобраз уласнай хаты выводзіцца на ўзровень шырокага абагульнення, на ўзровень паэтычнага сімвалу Бацькаўшчыны...» Прычым гэта эвалюцыя прасочваецца нават па называнні радзімы: пачаўшы з

*» Мінулае не мае ўмоўнага ладу. Немагчыма сказаць, як добра пісаў бы Якуб Колас пры жыццёва камфортных умовах — лепш ці горш. Пэўна адно: 13 неспакойных гадоў (1908 — 1921) так удобрылі глебу для ўзгадавання літаратурнага таленту, што ён сапраўды ў пачатку 1920-х гг. выйшаў на пік майстэрства і натхнення.*

«роднага кута», паэт прыходзіць да «нашай роднай зямлі», «нашага краю», «роднага краю», «межаў родных» і да т.п.; нават замест займенніка «мой» у дачыненні да радзімы пачынае ўсё часцей ужывацца займеннік «наш».

## КАРЭННЫ ПЕРАЛОМ

Паэма «Новая зямля» працярэблівала шлях на глебе тугі і настальгіі аўтара: прабілася на свет у астрозе, прадоўжылася на чужой і паўгалоднай Куршчыне, а не менш за палову твора паўстала ў Савецкай Беларусі, далёкай ад Коласавых ідэалаў перадусім праз падзеленасць краіны, дый улады, якую паэт не ўспрыняў як родную. Тым не менш паэма гучыць маналітна. Яе інтанацыі не паддаюцца кан'юнктуры, што правакавала аўтара на згодніцтва, да якога ён усё-такі фармальна прыйшоў трохі пазней. Зрэшты, паэт і не хаваў (прынамсі перад органамі АДПУ), што нацыянал-дэмакратычны этап яго творчасці закончыўся толькі ў 1925 г. «Добра, што я напісаў "Новую зямлю", цяпер бы я так не напісаў», — гэтыя словы паэта, сказаныя летам 1925 г., па свежых слядах пасля выхаду яшчэ адной паэмы — «Сымон-музыка», сёння набываюць дадатковае значэнне: яны сведчаць пра «карэнны пералом» у творчасці аўтара і асэнсаванне творцам гэтага пералому — і ў сваім жыцці, і ў жыцці ўсёй Краіны Саветаў.

У далейшым, у страшныя 1930-я, з мэтай перавыдаць паэму аўтар сам пераацэньвае свой твор, кажучы пра разыходжанне яго лейтматыву з ідэйнымі дамінантамі эпохі, што надышла. Народны паэт відавочна «дыпламатнічаў» дзеля ўлагоджвання літаратуразнаўцаў ад кан'юнктуры, у душы не змяняючы стаўлення да свайго найлепшага твора. Хаця, з іншага боку, аўтар і не лгаў: каштоўнасці мастацкага твора і бальшавіцкай аксіялогіі кардынальна разыходзіліся. Але да перапісвання «Новай зямлі» справа не дайшла.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Не хапае прасторы!

## ДАПАМАЖЫ САБЕ САМ, ЦІ ЗМЕНА СВЕТАПОГЛЯДУ

«Зрабіць так, каб цябе заўважылі, здолее кожны. Я атрымаў падтрымку ад фонду ў канцы 90-х гадоў — за неверагодную актыўнасць і выдатную вучобу. У мяне на той час было ўжо дзесяць персанальных абласных выставак. Так што не варта казаць, што нічога не атрымліваецца: маўляў, выстаўляцца няма дзе, карціны не купляюць. Калі ты скончыў Акадэмію мастацтваў і ўжо дзесяць гадоў пішаш «у стол», то хто ў гэтым вінаваты? Упэўнены, што калі мастак не лянуецца, працуе, то ён даб'ецца выніку. Іншая справа, што ў Беларусі праз нялёгкую эканамічную сітуацыю выжываюць толькі самыя моцныя... Але чаму б не быць сярод іх?» — распавядае Васіль Пяшкун.



*Алесь Багданаў «Сон».*

Яго прапанова — вылучаць пачынаючым мастакам больш месца пад майстэрні ў дзяржаўных будынках. Іх шмат не бывае! Бо маладым яшчэ і за кватэру плаціць. Не ўсе пацягнуць падвойную арэнду.

Іншая праблема: студэнт, які скончыў Акадэмію мастацтваў, часта трапляе не зусім туды, куды марыў; калі бюджэтнік, то па размеркаванні, хутчэй за ўсё, настаўнікам у сельскую школу. А хочацца шпацыраваць па светлай галерэі са сваімі карцінамі і лавіць захопленыя погляды...

«На самай справе арганізаваць сваю выстаўку, прычым нават у сталіцы, — не праблема. Ёсць стабільныя пляцоўкі для пачаткоўцаў — пры Акадэміі мастацтваў, Беларускім саюзе мастакоў, бібліятэках. Але калі казаць пра сучаснае мастацтва, то ўзнікае іншая праблема — непадрыхтаванасць публікі», — упэўнены Васіль Пяшкун.

Наш народ сапраўды больш прывык да рэалізму. І толькі час дапаможа зрабіць погляды людзей больш раскаванымі і менш кансерватыўнымі. Тое, што ў Еўропе, да прыкладу, ужо даўно лічыцца нявінным эратызмам, у нас «пошла і непрымальна». Па словах Васіля Пешкуна, быў выпадак, калі мастака папрасілі заляпіць некаторыя элементы

> *Звычайна беларускія мастакі знаходзяць нейкі грашовы занятак, а мастацтва ператвараецца ў хобі. Што можна зрабіць? Ды хоць бы паменшыць плату за майстэрні, якія да гэтага часу чамусьці ацэньваюцца па завышаным тарыфе вытворчых памяшканняў і яшчэ мусяць падаражаць. Няўжо ніхто не разумее, што карціны ці іншыя прадметы мастацтва — гэта не шкарпэткі, што прадаюцца кожны дзень?*

ў яго працах, так бы мовіць, прыкрыць галізну... Як жа навучыць людзей успрымаць сучаснае мастацтва? Выратаваць становішча могуць буйныя выстаўкі «новага фармату» і міжнароднага ўзроўню. Трэба шанаваць сваё, але і пераймаць досвед, рыхтаваць аўдыторыю.

Спецыяльны фонд па падтрымцы таленавітай моладзі, дарэчы, у гэтым годзе святкуе юбілей. За 20 гадоў узнагароды атрымалі звыш 3 тысяч чалавек, з якіх больш за 500 — прадстаўнікі выяўленчага мастацтва. Для маладых гэта нядрэнны штуршок для далейшай творчасці, прызнанне таленту. Але тое, як лёс мастака складзецца далей, цалкам яго клопат.

## ТОЛЬКІ ДЛЯ ПРОДАЖУ

Уладальнік спецыяльнай прэміі «За духоўнае адраджэнне», іканапісец Антон Бельскі кажа: «Прэмія для мяне была вельмі дарэчы, бо мы з жонкай чакаем першынца. Падтрымка дзяржавы адчуваецца. Але ёсць, да чаго імкнуцца».

На кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Акадэміі мастацтваў, дзе ён вучыўся і выкладае, у апошні час назіраецца тэндэнцыя да пошуку новых плыняў і форм, а прызнаныя майстры, такія як яе загадчык, Уладзімір Зінкевіч, аддана трымаюцца класічнай схемы адукацыі. У выніку і нараджаецца ўдалы сімбіёз традыцый і рэформ.

«Адна з самых яркіх падзей мінулага года, якая скаланула маладзёжнае мастацкае асяроддзе, — выстаўка-продаж «Восеньскі салон з Белгазпрамбанкам». Калі б такія мерапрыемствы праходзілі хоць бы пару разоў на год, гэта ўжо мела б вынік. Бо карціны мастакоў павінны прадавацца — ім з гэтага жыць, купляць палотны і фарбы. З'язджаюць нашы майстры таму, што пакупнікоў у Беларусі мала. Людзей, якія могуць дазволіць сабе даволі дарагую аўтарскую карціну, не так шмат. Застаюцца толькі мецэнаты. І такія вось буйныя, прыкметныя праекты, дзе збіраецца самая розная аўдыторыя», — разважае Антон Бельскі.



*Вольга Мельнік-Малахава «Ліст».*

> *Як жа навучыць людзей успрымаць сучаснае мастацтва? Выратаваць становішча могуць буйныя выстаўкі «новага фармату» і міжнароднага ўзроўню. Трэба шанаваць сваё, але і пераймаць досвед, рыхтаваць аўдыторыю.*



*Кацярына Семячко «Беларуская ноч».*

## ПАМЯНЯЙЦЕ, НАРЭШЦЕ, ТАРЫФЫ

Пра тое, што мастакоў у нашай краіне няма, кажуць хіба што тыя, каго не цікавіць нічога, акрамя серыялаў і сацыяльных сетак. Іншая справа — мы бачым іх не так часта. Сучаснаму беларускаму мастацтву патрэбны піяр, папулярызацыя, магчымасць выйсці з зацемак майстэрняў і маленькіх галерэй.

Маладая мастачка Алеся Скрабагатая лічыць, што майстрам неабходна больш свабодных пляцовак для выставак — прычым не такіх, дзе можна толькі прыйсці, развесіць свае карціны, але і абмеркаваць праблемы, знайсці падтрымку, прабавіць час з аднадумцамі. Звычайна беларускія мастакі знаходзяць нейкі грашовы занятак, а мастацтва ператвараецца ў хобі. Што можна зрабіць? Ды хоць бы паменшыць плату за майстэрні, якія да гэтага часу чамусьці ацэньваюцца па завышаным тарыфе вытворчых памяшканняў і яшчэ мусяць падаражаць. Няўжо ніхто не разумее, што карціны ці іншыя прадметы мастацтва — гэта не шкарпэткі, што прадаюцца кожны дзень?

Яшчэ адна мастачка, Вольга Мельнік-Малахава, лічыць, што падтрымка павінна быць своечасовай. Калі ўпершыню стала вядома, што яе адзначылі на дзяржаўным узроўні, бацькі нарэшце зразумелі, што прафесія мастака не безнадзейная з пункту гледжання жыццёвых магчымасцей.

«Праблема, з якой сутыкаюцца мастакі на самым пачатку, — што рабіць пасля Акадэміі мастацтваў? Складана знайсці сабе месца. Нядаўна ў маім творчым жыцці адбылася, нарэшце, шчаслівае падзея. Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь купіў адразу тры палатна. Калі б гэта адбылося крыху раней… Гадоў у дваццаць пяць. Я б рэалізавалася хутчэй. Нядрэнна б увогуле арганізоўваць закупкі ў маладых мастакоў па ініцыятыве не толькі сталічных, але і рэгіянальных музеяў. Гэты крок паказаў бы, што яны патрэбныя тут, у сваёй краіне», — разважае Вольга Мельнік-Малахава.

Сучаснае мастацтва, з аднаго боку, павінна быць крытыкам, які смела судзіць пра ўсе пераўтварэнні ў грамадстве, адбіткам надзей і расчараванняў. А з другога — несці ў сабе ўнутраную моц і заключаць жыццесцвярджальную формулу, так неабходную ў наш агрэсіўны і нялёгкі час. Адкрыццё новых музейных пляцовак, галерэй і ў цэлым інвестыцыі ў мастацтва — такі ж важны фактар, як і эканамічныя паказчыкі. Бо што ж фарміруе імідж краіны, як не яе творцы?

**Марыя ВОЙЦІК**

# Абраны музыкай


Юрый Бліноў за раялем.

**З таленавітымі людзьмі часта адбываюцца неверагодныя і фантастычныя падзеі. Яны адчуваюць свет вакол сябе глыбока і пранікнёна. Кампазітар і піяніст, лаўрэат міжнародных конкурсаў Юрый Бліноў ужо ў два з паловай гады памятаў уражанне, якое аказвала на яго музыка, і разумеў, што яна сабой уяўляе. Юрый з упэўненасцю гаворыць, што прафесію ён сабе не выбіраў. Прафесія выбрала яго.**

## ТВОРЧЫ СВЕТ МАЛЕНЬКАГА ЧАЛАВЕКА

Па цэнтральным тэлебачанні паказвалі навагодні канцэрт «Песня года — 77». Юрый, якому было два з паловай гады, атрымліваў вялікае задавальненне, калі чуў песні. «Мне вельмі падабалася музыка Давіда Тухманава. Я нават лічу яго сваім першым настаўнікам па кампазіцыі. Я вырас на яго песнях, музыцы, аранжыроўках. Адным з самых моцных уражанняў дзяцінства была Ганна Герман. Зачароўваў яе тэмбр, прыгажосць цудоўнага голасу, які адчуваецца на фізічным узроўні, быццам ён дакранаецца да струн душы. Захапляўся калектывамі «*ABBA*», «*Boney M*». У Савецкім Саюзе была забаронена нямецкая група «*Dschinghis Khan*», але мы ўсё роўна яе слухалі», — дзеліцца ўражаннямі Юрый. З класічнай музыкай ён пазнаёміўся толькі калі пайшоў у школу. Але кампазітар лічыць, што яму пашанцавала нарадзіцца ў добры час. Бо на стыку 70 — 80-х гадоў лёгкая эстрадная музыка была высокага мастацкага ўзроўню. З ранніх гадоў Юрый Бліноў навучыўся параўноўваць і ацэньваць музычныя творы. Пазней гэта дапамагло кампазітару і піяністу ў яго прафесійнай дзейнасці.

Першы клас Юрый скончыў у школе з музычным ухілам. А пасля настаўніца па фартэпіяна, зусім маладая дзяўчына, якая ў той час была студэнткай музычнага вучылішча, сказала бацькам Юрыя, што далей не мае права яго вучыць. Яна патлумачыла, што юнаму музыканту патрэбны больш высокі і сур'ёзны ўзровень. «Калі я пра гэта даведаўся, то зразумеў, што з гэтай пары мне патрэбна больш актыўна і плённа працаваць для таго, каб паступіць у сярэднеспецыяльную музычную школу (цяперашняя рэспубліканская гімназія-каледж)», — успамінае Юрый Бліноў. Яшчэ ў школьныя гады піяніст удзельнічаў у конкурсах і атрымліваў высокую адзнаку свайго майстэрства. У 17 гадоў Юрый бліскуча перамог на першым міжнародным конкурсе імя С. Пракоф'ева ў Санкт-Пецярбургу. Гэта падзея выклікала рэзананс у музычным свеце і фактычна стала для піяніста адпраўной кропкай яго актыўнай прафесійнай дзейнасці. Далей была вучоба ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

## МУЗЫКА БЕЗ МЕЖАЎ, ЦІ ПЕРАСМЕШНІКІ ЗАМЕСТ БУДЗІЛЬНІКА

Юрый Бліноў не спыніўся на дасягнутым. Працягнуў вучобу ў Злучаных Штатах Амерыкі. Піяніст стажыраваўся ў Тэхаскім хрысціянскім універсітэце. А затым атрымаў ступень доктара музычных мастацтваў у Вышэйшай школе музыкі Істмэна. Паралельна з вучобай удзельнічаў у конкурсах і перамагаў. Атрымаў першую прэмію на Гран-пры Шапэна ў Тэхасе, конкурсе Бартака-Пракоф'ева ў Вірджыніі, на Усеамерыканскім конкурсе піяністаў. У 2002 годзе Юрыя Блінова запрасілі ў алімпійскі Солт-Лэйк-Сіці. Там ён сыграў сольны канцэрт у рэзідэнцыі губернатара штата Юта для ганаровых грамадзян. А некалькімі гадамі пазней адбыўся сольны дэбют піяніста ў Карнэгі-Холе (Вайль-Рысайтл-Хол). На працягу двух гадоў Юрый Бліноў узначальваў міжнародные таварыства піяністаў і кампазітараў (*ISPC*), якое займаецца падтрымкай і прапагандай творчасці маладых аўтараў і выканаўцаў. Юрый з задавальненнем узгадвае гады працы ў Амерыцы. Кожны дзень ён па некалькі гадзін займаўся ігрой на фартэпіяна. Прычым часцей за ўсё ў начны час. Піяніст кладўся спаць толькі тады, калі а чацвёртай раніцы за акном пачыналі спяваць перасмешнікі.

Некалькі гадоў назад Юрый вярнуўся на радзіму. Але сувязі з Амерыкай не губляе, бывае за акіянам, выступае і дае майстар-класы. «Але ж у Амерыцы класічная музыка займае даволі вузкую нішу. Апошнія пяць гадоў я часта працую ў Германіі. Там адчуваю сябе лепш за ўсё, бо гэта краіна з вялікімі музычнымі традыцыямі. Дастаткова сказаць, што да 75% класічнай музыкі, якую шырока і актыўна выконваюць, была напісана людзьмі, якія размаўлялі на нямецкай мове. Чым больш я назіраю, тым больш разумею, што ў культуры і менталітэце людзей Германіі і Беларусі шмат агульнага. Але, на жаль, у нас няма тых магчымасцей, што ёсць там».

## ПЛЯЦОЎКА ДЛЯ ТАЛЕНТУ

Гэта не спыняе Юрыя Блінова. Ён не толькі выступае сольна, з аркестрамі, ансамблямі, у 2014 годзе ў горадзе Драгічыне Брэсцкай вобласці арганізаваў міжнародны конкурс юных музыкантаў «Палескі агеньчык». «Драгічын — мая малая радзіма. Для невялікага горада міжнародны конкурс — вельмі значнае і маштабнае мерапрыемства, якое датычыцца амаль усіх. Музычнай школе Драгічына ў 2012 годзе аддалі вялікі прыгожы трохпавярховы будынак. Таксама ў горадзе ёсць два канцэртныя раялі. Умовы ёсць. Нават у першы раз была неверагодная колькасць удзельнікаў: у катэгорыі «баян» і «фартэпіяна» 218 чалавек! Акрамя юных музыкантаў з Беларусі, прыехалі выступоўцы з Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы, Латвіі, Ізраіля і Казахстана», — з натхненнем расказвае Юрый Бліноў пра свой праект. Сёлета «Палескі агеньчык» адбудзецца напрыканцы мая. Плануецца, што яго геаграфія пашырыцца, далучацца музыканты з Эстоніі, Германіі, Швейцарыі і Кітая. Уведзена і новая катэгорыя — «кампазіцыя». Старшынёй журы ў гэтай намінацыі будзе славуты беларускі аўтар Сяргей Картэс.

Юрый запрашае журы, сочыць за выкананнем правіл, арганізоўвае запіс аўдыя- і відэаматэрыялаў. Удзельнікі конкурсу, акрамя грашовых прэмій, атрымліваюць самы жаданы прыз для музыканта — магчымасць выступаць на вялікай сцэне і гастраліраваць. Вясной мінулага года ў канцэртнай зале «Верхні горад», у Мінску, адбыўся вялікі канцэрт лаўрэатаў конкурсу.

«Уладзіслаў Хандогі, наша юная зорка фартэпіяна, атрымаў Гран-пры на «Палескім агеньчыку» яшчэ да расійскага вядомага конкурсу «Шчаўкунок». І нават першы канцэрт пасля перамогі ў «Шчаўкунку» ён сыграў не ў Расіі, а ў Драгічыне. У лютым гэтага года мы разам з Уладзіславам і пераможцам «Палескага агеньчыка» ў намінацыі «баян» Дзянісам Угорцыным плануем даць некалькі канцэртаў у Віцебску і вобласці. А ў сярэдзіне красавіка з дабрачынным канцэртам выступім у Брэсцкім абласным драматычным тэатры. Такім чынам, асноўная мэта конкурсу — даць лепшым выканаўцам выхад на сцэну», — кажа Юрый Бліноў.

## МЕЛОДЫЯ ДУШЫ

Юрый Бліноў шырока вядомы як выдатны піяніст. Але ж ствараць музыку ён пачаў раней, чым выконваць. Першыя творы напісаў яшчэ ў першым класе школы. Хлопчыку было цяжка прымушаць сябе разбіраць музыку па нотах, іграць гамы, эцюды... Яму хацелася проста сесці і іграць ад душы. Так нараджаліся свае мелодыі. Маленькі музыка пісаў іх, але ж сваім іменем падпісваў не заўсёды: ён прыдумваў розныя імёны і прозвішчы, біяграфіі кампазітараў, якія быццам пісалі гэтыя творы. Прычым у кожнага з іх быў свой жанр і стыль. «У той жа час я прыдумаў новы жанр у музыцы, які раней не існаваў, і назваў яго «рознагармоніяй». Тады мне было каля 10 гадоў». Але ж для таго, каб працягваць пісаць музыку, патрэбна было дасканала авалодаць інструментам. Таму заняткі па фартэпіяна, конкурсы, педагагічная і даследчая дзейнасць займалі ўвесь час Юрыя Блінова.

«Выкананне музыкі і яе напісанне — гэта супрацьлеглыя заняткі. Калі ты пішаш, то не можаш вучыць новыя праграмы і нават іграць тыя, што ўжо ведаеш. А калі іграеш — то не можаш пісаць. Для кампазіцыі трэба было вышукваць час у невялікіх перапынках паміж маёй дзейнасцю як піяніста. Але ж самае дрэннае ў гэтай сітуацыі, што творчаму арганізму нельга сказаць, калі патрэбна тварыць, а калі не. Звычайна, калі трэба было засяродзіцца на падрыхтоўцы да конкурсу, у галаву прыходзілі настойлівыя і ўжо аформленыя мелодыі. Даводзілася запісваць урыўкамі, а потым доўга расшыфроўваць гэтыя запісы праз нейкі час. Шчыра кажучы, часта мінае шмат гадоў, перш чым твор будзе завершаны. Мелодыя накцюрна, якую я пачаў пісаць у Амерыцы ў 2002 годзе, была канчаткова аформлена і завершана толькі праз 12 год — у канцы 2014-га», — расказвае Юрый Бліноў. Большасць мелодый прыходзіць да яго ў дарозе ці падчас заняткаў спортам. Некалькі гадоў таму Юрый пачаў актыўна бегаць на сярэднія і доўгія дыстанцыі, удзельнічаць у марафонах. Таксама з вялікім інтарэсам кампазітар і піяніст ставіцца да футбола.

У вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі 5 лютага адбудзецца першы аўтарскі канцэрт Юрыя Блінова. Усе творы, якія прагучаць у гэты вечар, напісаныя ім самім і з'яўляюцца адлюстраваннем шматграннай асобы кампазітара. Цыкл «Дэкатлон» — гэта дзесяць эцюдаў для фартэпіяна на розныя віды тэхнік. Юрый Бліноў прысвяціў яго беларускаму дзесяціборцу, віцэ-чэмпіёну Алімпійскіх гульняў і чэмпіёну Еўропы Андрэю Краўчанку. «Асабіста я з ім не знаёмы. Але даўно сачу за яго спартыўнай дзейнасцю. Спадзяюся, што Андрэй Краўчанка прыйдзе на канцэрт і пачуе гэтую музыку». Цікавы твор для аркестра «*Concerto-Kroоso*» таксама мае свайго натхняльніка. Па-першае, гэта футбол, а па-другое — знакаміты нямецкі футбаліст, чэмпіён міра Тоні Кроас. У гэтым творы Юрый выкарыстаў сярод іншага песні футбольных фанатаў, гімны клубаў «Баварыя» і «Рэал Мадрыд». Яны перапрацаваныя і ўплеценыя ў аснову сачынення.

Публіка на канцэрце не толькі паслухае музыку, але і стане актыўным удзельнікам. Юрый Бліноў выкарыстаў дуалізм феномена «Ката Шродынгера» і паклаў яго ў аснову аднайменнага твора. Як завершыцца кампазіцыя для фартэпіяна і скрыпкі ў гэтым музычна-фізічным эксперыменце, будзе залежаць ад слухачоў.

На творчым рахунку Юрыя Блінова — каля трыццаці аўтарскіх твораў. На канцэрце прагучыць частка з іх. Зараз Юрый Бліноў выступае як піяніст, піша музыку, арганізоўвае праекты і конкурсы, дае майстар-класы ў Германіі, Амерыцы, Аўстрыі, Італіі, Польшчы. Музыка аднойчы зрабіла яго сваім абраннікам. З той пары Юрый Бліноў ідзе наперад, пракладваючы шлях нотамі і чорна-белымі клавішамі, якія становяцца ад яго дотыку жывымі.

**Юлія КАРДАШ**

# Трэці сын

## Да 90-годдзя малодшага сына Якуба Коласа Міхася Міцкевіча



*Міхась, 1948—1949 гг.*

*З табою разам я ў дзень гэты,*
*Хоць ты далёка ад мяне,*
*І грэеш ты мяне, як лета,*
*Цябе я бачу ў яве, сне.*
*У кожны міг ты прада мною,*
*Такі мне блізкі, дарагі,*
*Ты на мяне глядзіш вясною,*
*Праз холад снежнае смугі.*

**Якуб Колас**

Так пачынаецца верш, які народны паэт Беларусі прысвяціў свайму малодшаму сыну Міхасю на дзень нараджэння. А на сваё дваццацішасцігоддзе Міхась Міцкевіч атрымаў наступны запавет ад свайго бацькі: *«Памятай: М. Ю. Лермантаў пражыў толькі 26 год. След жа для патомкаў пакінуў вялікі. Імкніся ж, мой дарагі сын, таксама пакінуць за сабой след — каб людзі бралі "раўненне" на цябе».* І сапраўды, Міхась Канстанцінавіч стаў чалавекам, на якога можна браць «раўненне» і ў навуцы, і ў спорце, і ў літаратуры.

31 студзеня 1926 года ў Мінску, у сям'і народнага паэта Беларусі Якуба Коласа і яго жонкі Марыі Дзмітрыеўны, нарадзіўся трэці сын — Міхась. Паэту на той момант ішоў 44 год, а двое старэйшых дзяцей былі ўжо досыць вялікімі: Данілу споўнілася 11, а Юрку — 8. У кнізе ўспамінаў «Пад бацькоўскім дахам» Міхась Міцкевіч піша: *«Для мяне Якуб Колас быў самым звычайным бацькам — клапатлівым, ураўнаважаным, добрым. Мне, канешне, як самаму меншаму больш пашанцавала, больш дасталася ўвагі, чым старэйшым братам».*

Свайму малодшаму сыну Якуб Колас прысвяціў некалькі вершаў: «Рагатка», «Дронік», «Не тужы», «Сыну», «Міхасю», «…Адстану я і час разлукі». Міхась стаў галоўным героем паэмы «Міхасёвы прыгоды»:

*І чуецца радасны крык —*
*Гукае Міхась: «Баравік!»*
*І сам прысядае на дол*
*Ды вочкамі водзіць вакол,*
*Аж зірк — між калюшак*
*Другі капялюшык!*

Любоў да кнігі, да літаратуры перадалася Міхасю ад бацькоў, гэтаму спрыяла і багатая хатняя бібліятэка. Чытаць навучыўся самастойна, а першай прачытанай кнігай быў зборнік фальклору, казак, паданняў і песень П. В. Шэйна. У дзяцінстве захапляўся кнігамі Марка Твэна, Вальтэра Скота, Луі Бусенара, Шарля дэ Кастэра, з цікавасцю вывучаў жывёльны свет па кнігах А. Э. Брэма. Ведаючы пра апошняе захапленне Міхася, Янка Купала падараваў яму раскошны ілюстраваны альбом з жывёламі свету. У дзесяцігадовым узросце Міхась ужо чытаў Гогаля, Пушкіна, Лермантава, Чэхава і іншых.

Да Вялікай Айчыннай вайны Міхась Міцкевіч на «выдатна» скончыў 8 класаў мінскай сярэдняй школы № 49. Атрымаць атэстат аб сярэдняй адукацыі давялося ў Ташкенце, дзе скончыў 9 і 10 класы СШ № 47. У 1943 годзе паступіў у Варонежскі авіяцыйны інстытут на машынабудаўнічы факультэт (тады інстытут знаходзіўся ў Ташкенце). Праз некаторы час перавёўся на аналагічны факультэт Маскоўскага авіяцыйнага інстытута. Там пазнаёміўся з будучай жонкай — дачкой Янкі Маўра — Наталляй Фёдаравай. Разам у 1949 годзе яны скончылі політэхнічны інстытут у Мінску. У сям'і Міхася і Наталлі Міцкевічаў нарадзілася трое дзяцей — Сяргей, Марыя і Канстанцін. Зараз Міхась Міцкевіч мае трох унукаў і адну ўнучку, трох праўнучак і аднаго праўнука.

Месцам працы Міхася Канстанцінавіча стаў Фізіка-тэхнічны інстытут Нацыянальнай акадэміі навук. З 1974 года Міхась Міцкевіч — загадчык лабараторыі электрафізікі. У 1985 годзе М. К. Міцкевічу прысвоена ступень доктара тэхнічных навук, ён аўтар звыш 180 навуковых работ у галіне тэхналогіі і абсталявання для электраэразійнай апрацоўкі металаў, мае каля 30 вынаходніцтваў. За поспехі ў працы Міхась Канстанцінавіч быў узнагароджаны ганаровымі граматамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР (1981 г.), Савета Міністраў БССР (2001 г.). У 1980 годзе атрымаў званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, у 1986-м узнагароджаны ордэнам «Знак пашаны».



*Якуб Колас і Міхась.*



*Міхась Міцкевіч з праўнучкай Юліяй.*

З 2006 па 2013 год Міхась Міцкевіч працуе ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Ён вядзе актыўную грамадскую і літаратурную дзейнасць, часта выступае на літаратурных вечарах і сустрэчах з успамінамі пра свайго бацьку, пра тагачаснае культурнае і навуковае жыццё. Міхась Міцкевіч з'яўляецца аўтарам шматлікіх артыкулаў і публікацый («Кроплі і слёзы Якуба Коласа», «Песні ў доме Коласа» і інш.), а таксама ўспамінаў пра Якуба Коласа, якія выйшлі ў кнізе «Пад бацькоўскім дахам» (2009 г.). Ён укладальнік кнігі, падрыхтаванай да 130-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі «Якуб Колас: у думках, у сэрцах, у песнях» (2012 г.), аўтар успамінаў пра брата Юрыя Міцкевіча, якія выйшлі ў кнізе «Апалены золак» (2013 г.), член рэдакцыйнай калегіі Збору твораў Якуба Коласа ў дваццаці тамах. У 2009 годзе ўзнагароджаны нагрудным знакам Міністэрства культуры «За ўклад у развіццё культуры Беларусі» за добрасумленную працу, значны ўклад у развіццё навуковага коласазнаўства і прапаганду творчасці народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, мае нагрудны знак «За вялікі ўклад у літаратуру» Саюза пісьменнікаў Беларусі. Міхасю Канстанцінавічу прысвяцілі вершы многія дзеячы сучаснай беларускай літаратуры: Мікола Маляўка, Казімір Камейша, Яўген Хвалей, Генрых Далідовіч і іншыя. Цікава, што сам Міхась Міцкевіч часта гаворыць, што ён спрыяў напісанню трох паэм — «Міхасёвых прыгод» Якуба Коласа, «Апалены золак» М. Мятліцкага, «Развітанне» Г. Бураўкіна.

Міхась Канстанцінавіч — майстар спорту па стэндавай стральбе. Стральбою і паляваннем захапляўся сярэдні сын Якуба Коласа Юрый Міцкевіч, які загінуў пад Смаленскам у верасні 1941 года. Ідучы на фронт, ён прасіў Міхася зберагчы яго стрэльбы. Паляванне і стэндавая стральба зацікавілі і Міхася. З пачатку 1950-х ён пачынае ўдзельнічаць у спаборніцтвах па стэндавай стральбе. У 1955 годзе на першынстве БССР Міхась Канстанцінавіч устанавіў рэкорд рэспублікі з вынікам 129 мішэняў

> *У кнізе ўспамінаў «Пад бацькоўскім дахам» Міхась Міцкевіч піша: «Для мяне Якуб Колас быў самым звычайным бацькам — клапатлівым, ураўнаважаным, добрым. Мне, канешне, як самаму меншаму больш пашанцавала, больш дасталася ўвагі, чым старэйшым братам».*

з 150 магчымых на круглым стэндзе і атрымаў першае месца ў індывідуальных спаборніцтвах. У 1956 годзе ён удзельнічаў у першай Спартакіядзе народаў ССР, дзе заняў чацвёртае месца па парных мішэнях і шостае — на круглым стэндзе. У актыве Міхася Канстанцінавіча больш за 30 узнагарод, грамат і дыпломаў рэспубліканскіх і саюзных спаборніцтваў.

Любімым заняткам Міхася Міцкевіча была і аматарская фатаграфія. У яго архіве каля 40 альбомаў з фотаздымкамі розных мясцін і куточкаў Беларусі, родных і знаёмых сям'і Якуба Коласа. Выстаўкі фотаздымкаў Міхася Міцкевіча некалькі разоў праходзілі ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа ў Мінску. Яго фотаздымкі таксама ўпрыгожваюць экспазіцыю «Якуб Колас: прырода і людзі роднага краю» ў Мар'інай Горцы.

У 1951 годзе ў лісце да сына Міхася Якуб Колас напісаў: *«віншую з днём твайго 25-годдзя. Нехай яно будзе толькі ¼ твайго жыцця».* Спадзёмся, што гэтае пажаданне спраўдзіцца. А мы віншуем Міхася Канстанцінавіча з дзевяностагоддзем, жадаем моцнага здароўя, каб ён і надалей радаваў нас сваімі ўспамінамі, артыкуламі, выступленнямі аб жыцці і творчасці свайго бацькі.

**Васіліна МІЦКЕВІЧ,**
**галоўны захавальнік**
**Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа**

Гэ ЛЯН



Нарадзіўся ў 1978 годзе ў горадзе Нанкін правінцыі Цзянсу. Скончыў факультэт кітайскай літаратуры Ганконгскага ўніверсітэта. Мае ступень доктара. Жыве ў Ганконгу. Займае пасаду асістэнта прафесара ў Ганконгскім баптысцкім універсітэце. Яго працы апублікаваныя ў кантынентальным Кітаі і на Тайвані. Аўтар рамана «Чжуцюэ», зборніка кароткіх апавяданняў «Год драмы», апавяданняў «Энігма», «Нашы шляхі разышліся», калекцыі нарысаў «Накіды» і шматлікіх іншых твораў. У 2008 годзе атрымаў прэмію «Развіццё мастацтва Ганконга» і Першую Ганконгскую кніжную прэмію. З'яўляецца ўладальнікам іншых прэстыжных прэмій. Штотыднёвік «Азія» назваў «Чжуцюэ» ў спісе дзесяці лепшых раманаў 2009 года.

# Статуэткі майстра Іня

*(урывак)*

Напярэдадні Новага года, прыводзячы ў парадак старыя рэчы, маці знайшла запылены прадмет. Гэты прадмет быў абгорнуты некалькімі слаямі мяккай паперы. Разгарнуўшы яе, яна ўбачыла гліняную статуэтку тыгра. Фарба на статуэтцы паблякла, і на спіне ўжо ўтварыўся малюнак ад патрэсканай гліны. Толькі на пысе тыгра адбіваліся адвага і лютасць.

Гэта выраб майстра Іня. Праўду кажучы, гэтая статуэтка больш як дзесяць год не траплялася мне на вочы.

Каб лепей уявіць майстра Іня, бадай, варта пачаць аповед з палаца Чаацянь.

Я вырас у старой сталіцы Кітая[1]. Старадаўніх месцаў тут шмат. Тут знаходзіцца такое вытанчанае месца, як Кабінет дзесяці бамбукаў[2], а таксама месца куды больш даступнае — палац Чаацянь. У дзяцінстве мяне часта вадзіў туды бацька, і палац Чаацянь мне здаваўся сапраўдным раем. Малаадукаваныя гарадскія дзеці думалі, што асноўная функцыя палаца Чаацянь — правядзенне кірмашоў. Сёння палац уяўляе сабой строга спланаваны музейны комплекс, але ў той час ён знаходзіўся ў беспарадку. Менавіта гэты беспарадак і надаваў яму жыццёвую сілу. Гэта было вельмі вялікае месца тыпу блышынага рынку; так званым базарам антыкварных рэчаў яно стала пазней. У той час яго атмасфера нагадвала пекінскі Цяньцяа[3]. На рынку прадаваліся старадаўнія рэчы, сярод якіх былі і сапраўдныя прадметы, і падробкі; вёўся дробны гандаль, які не меў нічога супольнага з мастацтвам; меліся нават дрэсіраваныя малпачкі, што білі ў барабаны, каб завабіць пакупнікоў. Вядома, там былі і людзі, якія валодалі сапраўдным талентам і сумленна ставіліся да справы. Часта ўсе свае рэчы яны пераносілі на каромысле, дзе ў скрыні злева знаходзіўся матэрыял для працы, а справа — ужо гатовыя вырабы. Дзякуючы гэтаму іх творчасць выклікала вялікае ўзрушэнне і цікавасць. Напрыклад, выраб фігурных ледзяшоў, выцінанне — за ўсім гэтым з вялікім захапленнем назіралі дзеці. Майстар Інь быў адным з такіх умельцаў.

У маёй памяці ўсё захавалася незвычайна выразна, бо майстар Інь у той час быў неад'емнай часткай палаца Чаацянь. Кожны раз, калі я туды прыходзіў, адразу накіроўваўся да яго. Знешнасць майстра была вельмі спецыфічнай, ён увесь час насіў акуляры з тоўстымі шкельцамі, дужкі якіх былі зламаныя і абматаныя ізаляцыйнай стужкай. Цёмна-сіняя «суньятсенаўка»[4] была вельмі старой, з масляністымі плямамі на пацёртым каўняры. Толькі сканцэнтраваны выраз твару ніколі не змяняўся.

Майстар Інь быў спецыялістам па лепцы з гліны.

Першы яго твор, які я набыў, называўся «Вялікая Афу». Сярод прац майстра лялек было больш за ўсё. Лялька была вельмі вялікай і падобнай на дзіця. Як я памятаю, гэтыя лялькі нагадвалі вялікіх немаўлят з твора «Знесеныя прывідамі». Лепка статуэтак ішла як на мазаных колах. У майстра была рассоўная ліцейная форма з дрэва; яе запаўнялі глінай, і калі даставалі, атрымлівалася фігурка пухлага дзіцяці. Майстар спачатку пакрываў яе светлай фарбай, потым акуратна вымалёўваў бровы, наносіў на шчокі румяны, густа і ярка фарбаваў набрушнік, маляваў замок даўгалецця[5] ці залатую манету[6] — і лепка была скончаная.

З набыццём «Вялікай Афу» нарадзілася мая цікавасць да твораў майстра Іня. Гліняныя скульптуры не з'яўляюцца асаблівасцю мясцовай вытворчасці, таму майстар вылучаўся з мноства нанкінскіх умельцаў. Да таго ж Інь быў вельмі маўклівы, і калі за ім назіраў натоўп юных прыхільнікаў, ён не звяртаў на іх увагі і працягваў спакойна выконваць сваю працу. У майстра быў мастацкі альбом з акуратна намаляванымі асадкай эскізамі, пад якімі пазначаўся кошт. Гэта былі ўзоры яго прац. Калі табе падабаўся адзін з узораў, ты на яго паказваў — майстар у знак згодыківаў галавой, і дамова была заключаная. З-за сур'ёзнасці і нешматслоўнасці Іня дзеці патроху страцілі да яго цікавасць. Але майстар не здраджваў сабе і працягваў працаваць, як і раней. Аднак існавалі выключэнні. Адным з іх быў я. Я быў вельмі ўпарты, калі справа тычылася чагосьці невядомага. Аднойчы ў пекінскім парку Чжуншань я, трохгадовы, назіраў за тым, як перабіраецца ў іншае месца сямейства мурашоў, наўздзіў дарослых, і аддаў гэтаму занятку ўсю другую палову дня. Старэйшыя, распавядаючы зараз гэтую гісторыю, не могуць схаваць, што ў той час хваляваліся, ці не хворае дзіця на галаву. Сёння сказалі б, што такія паводзіны супадаюць з некаторымі прыкметамі аўтызму. З цягам часу майстар Інь усё ж такі пазнаёміўся і пачаў размаўляць з хлопчыкам, які ўвесь час круціўся перад вачыма. На пачатку знаёмства тэмы былі вельмі простымі і паўсядзённымі, часам здавалася, што дарослы спрабуе адкруціцца ад дзіцяці.

<...> Майстар Інь не нанкінец. Ён родам з горада Усі правінцыі Цзянсу. Недалёка ад Усі знаходзіцца горад Чаншу, у якім ёсць раён Хуэйшань, менавіта там распаўсюджаная лепка статуэтак з гліны. Трошкі пазней я даведаўся, што прадукцыя, якой славіцца дадзеная мясцовасць, мае самае звычайнае паходжанне: лепка з гліны з'явілася заняткам вясковых сямей паміж сельскагаспадарчымі працамі. З-за агульнанароднага характару гэтага рамяства ў народзе ходзіць прымаўка: «У кожнай сям'і па-майстэрску лепяць, у кожным двары выдатна фарбуюць». Пазней вырабы з гліны сталі аб'ектам гандлю і прывялі да ўзнікнення спецыялізаваных мануфактур. Сярод іх было некалькі самых вядомых: Юань, Джу, Цсянь. Майстар Інь быў навучаны ў традыцыях мануфактуры Джу. Калі я быў маленькім, ніяк не мог зразумець, чаму настаўнік вырашыў правесці жыццё ў Нанкіне. Лепка з гліны для майстра Іня была працай, але насамрэч ён раздзяляў працу і мастацтва. Напрыклад, «Вялікая Афу». Стварэнне гэтай статуэткі хоць і прыносіла радасць, але было блізкае да серыйнай вытворчасці, майстар называў яе «цацкай» і выбляў, каб зарабіць на жыццё.

Але будучы творчым чалавекам, ён не мог не ствараць «мастацкія вырабы». Па традыцыі, вобразы для іх шукаліся ў музычнай драме кітайскага традыцыйнага тэатра павета Куньшань. Майстар цалкам уручную граніў і паліраваў цацку, і кожная лялька вылучалася сваім знешнім воблікам і характарам. У настаўніка Іня быў цэлы набор інструментаў, раскладзеных ад самага маленькага да самага вялікага і загорнутых у ворсавую тканіну. Найменшы інструмент, зроблены з косткі сіга[7], быў прызначаны для гравіравання рысаў твару. У майстра над лаўкай вісела шыльда, на якой была выява мужчыны з шырока адкрытымі вачыма, у чырвоным адзенні і парадных ботах, побач з ім стаяла сумная жанчына ў паўсядзённай вопратцы. Я дагэтуль не ведаю, з якой п'есы гэты сюжэт.

Аднойчы я заўважыў, што настаўнік усё ж такі пачаў прыглядацца да цікавасцей людзей навокал, і сярод яго работ з'явіліся ўлюбёныя персанажы дзяцей, якія былі героямі часта трансляваных мультфільмаў. Напрыклад, манах Ікю, Смурфы і г.д. Яны былі як жывыя. Цяжка ўявіць, што ствараў іх сур'ёзны майстар Інь.

У знак сяброўства і ўдзячнасці майстар Інь спецыяльна для мяне зляпіў Астрабоя. На той момант наш дом ужо быў цалкам забіты творамі майстра Іня.

Калі я, звар'яцелы ад радасці, трымаў у руках Астрабоя, з'явіўся бацька. Ён праслухаў адзін акт п'есы «Ян Гуань» і зайшоў па мяне, каб вярнуцца дадому. Калі мы з бацькам прыхodзілі ў палац Чаацянь, заўсёды хадзілі глядзець куньксюй[8] заходзілі ў палатку з глінянымі статуэткамі. Мама ніколі не далучалася да нас і казала: «Час трэба берагчы. Хопіць і вас дваіх для гэтага занятку. Што стары, што малы — усё адно».

Бацька зірнуў на Астрабоя, якога я трымаў у руках, потым перавёў позірк на іншыя тавары, размешчаныя ў лаўцы. Праз некаторы час ён нечакана прамовіў: «Вельмі добра намалявана».

Я веры, што словы бацькі былі сказаны ад чыстага сэрца і вынікалі з яго прафесійнага вопыту. Я вельмі ўзрадаваўся і падумаў, што бацька, нарэшце, прызнаў маё захапленне.

Майстар, не ўзнімаючы галавы, ціха прамовіў: «Толькі адна траціна працы складаецца з лепкі, астатняе — гэта фарбаванне. Нічога асаблівага, усяго толькі цацкі».

Але бацька адказаў: «Не. Гэта мастацтва».

Майстар Інь адарваўся ад працы і пасля некаторага маўчання стрымана прамовіў: «Спадар, Вы перабольшваеце. Я, як чалавек «цзянху»[9], не варты такіх слоў. Гэта ўсяго толькі заробак»…

**Пераклад з кітайскай Кацярыны ГАРДЗЕЙ**

*Каментар:*

*[1] Маецца на ўвазе горад Нанкін.*

*[2] Адна з самых старых мануфактур Нанкіна. У двары мануфактуры расло больш як дзясятак сцяблін бамбука, адсюль і пайшла назва.*

*[3] Рынак, які знаходзіўся ў г. Пекіне ў раёне Цяньцяа, дзе збіраліся дробныя гандляры і вандроўныя артысты.*

*[4] Мужчынскі фрэнч, падобны на ваенны кіцель, папулярны ў Кітаі ажно да 90-х гадоў XX стагоддзя.*

*[5] Амулет-абярэг.*

*[6] Лялька абавязкова трымала ў руках адну з рэчаў, якія сімвалізавалі шчасце, шанцаванне, поспех, даўгалецце, дастатак (залатую манету, рыбу і г. д.).*

*[7] Род прамысловых рыб сямейства ласасёвых. Распаўсюджаны ў рэках і азёрах Еўропы, Паўночнай Азіі і Амерыкі, а таксама на Урале.*

*[8] Найстарэйшая з захаваных да нашых дзён форм кітайскай оперы (класічнай музычнай драмы).*

*[9] «Цзянху» — у літаральным перакладзе з кітайскай мовы значыць «рэкі і азёры». У даўніну пад гэтым словам мелася на ўвазе адасобленае месца за горадам, дзе збіраліся высакародныя мужы, якія пакінулі службу, або месца для адважных. У пачатку XX стагоддзя «Цзянху» па большай частцы было месцам, дзе давалі прадстаўленні вандроўныя акцёры і фокуснікі. Гандляры называлі сябе «тымі, хто займаецца вандроўным промыслам», народныя акцёры, якія бадзяліся па свеце, называлі сябе вандроўнікамі «па рэках і азёрах».*

# Шанхай



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

У Шанхай мы ляцелі самалётам з цэнтра правінцыі Шаньдунь горада Цзінань — «невялікага абласнога гарадка», як пажартаваў мой сусед Аляксей. Гэты «невялікі гарадок» налічвае каля шасці мільёнаў жыхароў! Я быў у Кітаі ўжо другі раз і, здаецца, патроху прызвычаіўся да мясцовых маштабаў, але мае калегі — журналісты з Украіны, Беларусі і Малдовы — не пераставалі здзіўляцца ды ўражвацца. І хуткасным цягніком, які вёз нас з Цзіναня, больш падобным да нейкага касмічнага баліда, бо мчаў ён з хуткасцю 350 кіламетраў у гадзіну, і шыкоўным атэлем у «абласным цэнтры», і грандыёзным прадстаўленнем ля падножжа гары Таншань, у якім узялі ўдзел дзясяткі тысяч артыстаў…

І вось цяпер Шанхай. Камандзіроўка. Калі ў папярэдні прыезд я нагледзеўся кітайскіх старажытнасцей і новай архітэктуры з уплывам мясцовай спецыфікі, то ад Шанхая першае ўражанне такое: «Можа, я ў Нью-Ёрку ці ў Чыкага?» Хмарачосы пад самае неба, шырачэзныя вуліцы, эстакады — вочы разбягаліся!

Перад паездкай прачытаў, што са старажытнасці да дынастыі Юань Шанхай быў маланаселенай мясцовасцю і развіваўся марудна, стаўшы месцам вытворчасці солі і збожжавых. Пры дынастыі Мін тут пачалі вырошчваць бавоўну і развіваць тэкстыльную прамысловасць. У 1843 годзе гэта адзін з першых партоў, адкрытых для замежнага гандлю.

Дарэчы, у маім Полацку «Шанхаем» называлі гарадскі рынак з дробнымі шапікамі, мітуснёй і брудам вакол.

Але тут тлум «Шанхая» мы ўбачылі толькі ў гарадскім музеі — дарэчы, таксама ў суперсучаснай установе, такой, якімі б хацелася бачыць айчынныя музеі.

Дарэчы, назва Шанхай, як сказала куратар нашай групы спадарыня Юй, складаецца з двух іерогліфаў: «верх» і «мора». Таму адносна правільнага тлумачэння назвы горада дагэтуль вядуцца спрэчкі: ёсць варыянты «На моры», «Вярхоўе мора», «Выхад да мора», «Прыморск».

Між тым да гатэля з аэрапорта мы ехалі, як кажуць, раскрыўшы раты, бо гіганцкі горад жыў сваім бурным жыццём і, нібы Гулівер, выглядаў з акна аўтобуса, як міма праплывалі высоткі, як па трохузроўневых эстакадах віраваў паток машын, як мільгалі рознакаляровыя шыльды банкаў, кафэ, офісаў…

Самыя вядомыя Шанхайскія хмарачосы, як сказаў нам гід, спадар Ван, — 88-павярховы Цзіньмаа ў гандлёва-фінансавым раёне Луцзяцзуй і Шанхайскі сусветны фінансавы цэнтр. Іх вышыня адпаведна 421 і 492 метры.

А што такое Шанхай з вышыні, мы ўбачылі пасля абеду, калі наведалі тэлевежу «Перліна Усходу». Яе вышыня — 468 метраў.

Пакуль дабраліся да агляднай пляцоўкі, даведаліся, што аснова тэлевежы складаецца з трох вертыкальных цыліндраў, кожны з якіх мае дыяметр дзевяць метраў. У канструкцыі выкарыстана адзінаццаць стальных шароў рознага дыяметра. І гэта сімвалічна, бо адпавядае радку старажытнакітайскай паэзіі «вялікія і малыя перліны падаюць у яшмавы посуд…». Увогуле, самая ультрасучасная з'ява ў Кітаі абапіраецца на выказванні старадаўніх мудрацоў і паэтаў.

Але вось і аглядная пляцоўка. Шкляная падлога адкрывае від на горад з 360-метровай вышыні. Шчыра кажучы, я зрабіў над сабой вялікае намаганне, каб на некалькі секунд ступіць на гэтую падлогу, а турысты, у асноўным дзеці і моладзь, поўзалі, качаліся, скакалі над Шанхаем, дзе далёка ўнізе, нібы мурашы, рухаліся машыны і людзі.

Вечарам мы плылі на цеплаходзе па рацэ Хуанпу. На набярэжнай Вайтань гулялі людзі. І на цеплаходзе было поўна народу. З палубы мы глядзелі на зіхаценне рознакаляровых агнёў, на грамадзіны хмарачосаў, што праплывалі міма, і я думаў: ці паверылі б мае полацкія бацькі і родныя, вясковая баба Зося, што ў свеце ёсць такі цуд і што я буду проста прысутнічаць у гэтым цудзе?..

## Культурны ракурс



Беларусамі і гасцямі нашай краіны Віцебск даўно стаў успрымацца як радзіма выбітнага мастака Марка Шагала. У горадзе можна знайсці шмат атрыбутаў, звязаных з яго жыццём і творчасцю: ад дробных сувеніраў да дома-музея і арт-цэнтра. Штогод тут праводзяцца і разнастайныя мерапрыемствы з нагоды памятных дат жыцця мастака. Напрыклад, 25 ліпеня 2015 года шырока адзначалася 100-годдзе з дня шлюбу Марка Шагала і Бэлы Розенфельд. Менавіта гэтая падзея натхніла майстроў стрыт-арту Глеба Каштанава і Яна Кузьміна на стварэнне графіці з партрэтам мастака. Яны не сталі адыходзіць ад традыцый віцебскага вулічнага мастацтва і нанеслі малюнак на трансфарматарную будку, якая знаходзіцца ў адным з ціхіх дворыкаў на вуліцы Суворава. Дарэчы, гэтую выяву не так проста знайсці!

Фотаздымак, які я прадстаўляю на конкурс «ЛіМа», зроблены падчас сямейнага летняга адпачынку-вандроўкі па поўначы Беларусі. Ён захоўвае цёплыя ўспаміны пра пахмурны, але яркі і непаўторны дзень ліпеня.

**Анастасія ВЕСЯЛУХА-ВОЛКАВА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас lim_new@mail.ru з пазнакай «Культурны ракурс». Лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

## Арт-агляд

# Аматарам выяўленчага мастацтва…

**З пачаткам Года культуры музеі і мастацкія галерэі Мінска прапануюць жыхарам і гасцям сталіцы цікавыя экспазіцыі. Карэспандэнты «ЛіМа» зрабілі невялікі рэйтынг, выбраўшы самыя цікавыя выставачныя праекты.**

### ГАРАДСКАЯ МАСТАЦКАЯ ГАЛЕРЭЯ ТВОРАЎ ЛЕАНІДА ШЧАМЯЛЁВА

**1.** Знайсці адзіную, але трывалую духоўную апору прапануе літоўскі мастак Саламон Тэйтэльбаум на сваёй персанальнай выстаўцы. Манеру маладога майстра, аднаго з найбуйнейшых спецыялістаў пейзажнага жывапісу і фігурнай кампазіцыі ў Літве, параўноўваюць са стылем Хаіма Суціна. Сімвалічна, бо апошні некалькі гадоў вучыўся ў Школе прыгожых мастацтваў Вільнюса.

Пры знешняй сціпласці і, відаць, спакойным характары дзівіць творчая смеласць мастака: свет на яго карцінах пададзены ў канцэнтраваным выглядзе, пастанным, экспрэсіўным і апантаным руху.

Буйнымі, каларытнымі, вельмі яркімі мазкамі (па некалькі сантыметраў фарбы!) выпісаныя барацьба святла і цемры са Шчаўкунка, цыкл, прысвечаны творам Дастаеўскага альбо душы Гамлета, што блукае. Самы часты матыў — старадаўнія дамы і велічныя дрэвы. Паспрабуйце паразважаць і ўбачыць у ім патаемны сэнс. Напрыклад, сувязь паміж жыццём і смерцю, прыродай і паэзіяй. Творчасць Саламона Тэйтэльбаума — для тых, хто не прымае павярхоўнасць, а ў мастацтве шукае ўнутраную сілу і драматызм. Ліпы адлюстроўваюць прускіх багоў, а бяроза, што раскінула галіны на самым краі абрывістай прорвы, — адзіноту.

Выстаўка, куратарам якой стала дырэктар галерэі «Кніжны салон» Ала Зміёва, — пацвярджэнне культурнага абмену паміж Беларуссю і іншымі краінамі, а таксама працяг праекта «Прастора Суціна».



*Чайкі вачыма Улады Белавусавай-Кірыенка.*

### МАСТАЦКАЯ ГАЛЕРЭЯ «УНІВЕРСІТЭТ КУЛЬТУРЫ»

**2.** Два ўніверсітэты прынялі ўдзел у маштабным выставачным праекце «Гжэль — Мінск: вытокі творчасці і майстэрства». Гжэльскі дзяржаўны ўніверсітэт прадставіў творы сваіх выкладчыкаў і студэнтаў, якія захоўваюць традыцыі народнай творчасці роднага краю. Сапраўднае народнае мастацтва Гжэль уражвае сваёй вытанчанасцю, акуратнасцю і майстэрствам. Цікава пазнаёміцца з тонкасцямі апрацоўкі керамікі, парцалянавага посуду і вышывак. Беларуская частка экспазіцыі дэманструе таленавітыя работы студэнтаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, сярод якіх можна ўбачыць арыгінальныя скульптуры з саломкі, габелены, уласныя керамічныя творы побач з керамічнай батлейкай. У межах выстаўкі ўпершыню былі прэзентаваныя народныя драўляныя духавыя інструменты аўтарскай рэканструкцыі Аляксандра Сурбы.

### ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ

**3.** Радкамі з твораў трох беларускіх класікаў — Пімена Панчанкі, Максіма Багдановіча і Ніла Гілевіча — падпісаны карціны маладой мастачкі Юліі Нявейка, прэзентаваныя на выстаўцы «Ад краю ў край». Аўтарка ў сваёй творчасці пазіцыянуе традыцыйны падыход да мастацтва. Рэалістычнае бачанне прыроды і тонкае адчуванне прыгажосці напаўняе яе работы гармоніяй і спакоем.

### АРТ-ГАСЦЁЎНЯ «ВЫСОКАЕ МЕСТА»

**4.** Добра вандравацъ можна дзякуючы мастачцы Уладзе Белавусавай-Кірыенка. На яе выстаўцы «Нюансы падарожжаў» прадстаўлена больш за 120 карцін у графічнай (блізкай да дэкаратыўнай) тэхніцы «манатыпія», створаных на працягу апошніх 10 гадоў.

Сярод знаўцаў эканамічных рухаў і стагнацый апошнім часам модна казаць пра глабалізацыю, але ж вось яна — на палітры твораў мастацтва. Улада Белавусава-Кірыенка прапануе нам паглядзець на краіны свету з розных ракурсаў — праз іх архітэктурныя збудаванні, асаблівасці нацыянальных ландшафтаў ці экзатычнасць кветак і пладоў. Балгарыя асацыюецца з гордымі чайкамі на сонечным узбярэжжы, Польша — са скляпеннямі прыгожых палацаў, Італія — з грацыёзнымі венецыянскімі гандоламі. Мастачка не губляецца ў чужой культуры, а ўдала перадае яе каларыт.

«Мы нядрэнна ўладкаваліся павандраваць па свеце дзякуючы Уладзе Белавусавай-Кірыенка. Яна адкрывае звыклыя рэчы ў новай для іх глыбіні, бачыць незвычайнае ў штодзённым. Пышна адчувае колер і працуе вельмі фактурна. Яе тэхніка — як паэтычная знаходка з пачуццём меры, формы і пластыкі», — лічыць мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн.

### НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**5.** Выдатны «Джэнтэльменскі набор» ад маладых мастакоў. Кветкі і шампанскае ад Уладзіміра Зленкі, Глеба Отчыка, Андрэя Пяткевіча. А таксама зброя як атрыбут сапраўднага рыцара. Насамрэч усё гэта тэмы работ, праз якія натхнёныя пачуццямі маладыя людзі заваявалі прыязнасць прыгожай паловы грамадства і падаравалі ім свята. Але нават такія святочныя і звыклыя рэчы можна асэнсаваць па-філасофску, разглядаючы аб'екты рэчаіснасці як сімвалы (Уладзімір Зленка). Андрэй Пяткевіч праводзіць паралелі паміж сучаснасцю і класікай. Але прымусіў пахваляцца за вечнае і прыгожае, калі паказвае тое, што разбурае любую гармонію. Глеб Отчык шукае незвычайныя ракурсы, калі ўсё можа бачыцца зусім інакш. Выстаўка, дзе сышліся розныя эмоцыі, ядналіся, узмацняючы адна адну. Ніхто нікога не перакрываў. Тонка, па-джэнтльменску.

**Падрыхтавалі Вікторыя АСКЕРА і Марыя ВОЙЦІК**


ЛіМ
**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**





**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 28.01.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 2001.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 153

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12




ISSN 0024-4686